У нумары
Прыгажуні выратуюць Беларусь?
Спінай да залы
Феміна-"Мастыхін"
Аўтограф непаўторнай Далуханавай
Марыялогія
Споведзь путаны
"Бэбі-бум"








# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 9 (322) 7 — 13 сакавіка 1998 г. КОШТ 3000 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ •


***Капялюш і пальчаткі — вуаль і таямніца, вершы і кветкі... — каханне, пакланенне, страсці, — гэта Жанчына! Гэта — кожная жанчына, якая нарадзілася ў гэтым свеце.***
***Але кожная з іх — і асобны лёс, "пабудаваны сваімі рукамі" з дапамогай мужчын і грамадства. Кожная сама выбірае свой шлях.***
***А 8-га сакавіка — адно свята для ўсіх! І няхай нашым жанчынам даўжэй свеціць сонейка іх Вясны...***

***Мужчыны***

# ЗАГАДКАВЫ **КАПЯЛЮШЫК...**

***"ДЕЛО В ШЛЯПЕ!"***

***— магчыма, так вырашаць нашыя дарагія мужчыны, падарыўшы нам "абавязковы" прэзент. Такая ўжо завядзёнка... Не пакутуйце, родныя, залішне! Не шукайце для нас шчасця ў магазінах. Добрае слова, як кажуць, і котцы прыемнае. А яшчэ лепей — ваш пацалунак!***

***Жанчыны***

Калонка пра набалелае

# "8"-га АБО "9-га з 1/2" САКАВІКА ЖАНЧЫНЫ НА ГІСТАРЫЧНАЙ РАДЗІМЕ

У чарговы раз маю нагоду і гонар дакрануцца да чагосьці сусветнага і жаночага. Я не маю на ўвазе крытычныя дні. Бо, здаецца, мае суайчынніцы наогул маюць крытычнае жыццё. Прабачце за тэлевізійны размах і шчырасць у параўнаннях. Яшчэ адна агульная дэталь аб'ядноўвае жанчын планетарна — кветкі. Толькі адны з нас атрымліваюць іх часцей у свята 8 сакавіка, а іншыя — па настроі душы. У нас — салат "Аліўе", галаканцэрт па TV, падарунак ад юнака кніга "Як гартавалася сталь" — сімвалы веснавога свята. Стары і Новы свет жыве працай і не кансалідуе жанчын Зямлі. Навошта? І без таго яна прызнаная, Жанчына — чакае на абед сваіх дзяцей. Адным сакавіцкім днём. Свята настолькі ж будзённае, наколькі для немаўляці не мае значэння кар'ера ягонай матулі. І далей, яго, ужо дарослага цікавіць адно — здароўе маці, а не ейныя поспехі ў працы. Натуральна, як: "і быў дзень і была ноч". Між іншым, і незамянімы мацярынскі інстынкт "падаў — прыбраў" набываецца з малаком маці. Планетарна, як: "помні імя сваё".

Дзеці-падлеткі розных краін арыгінальнасцю не напружваюць сябе, калі сваім матулям купляюць кветкі на грошы са школьных абедаў. Мой сын таксама эканоміў грошы, толькі на гэты раз на букет руж, а не на амерыканскі тытунь, які паліць па пад'ездах. Мужу дастаткова было дзве ночы, каб "адбыць" свой сюрпрыз рэдагаваннем камерцыйна-крымінальнага чытва. Толькі ягонай фантазіі, прыгнечанай заробкам, хапіла на такія ж самыя ружы. Дарэчы, адзін букет разам з добрушскай парцэлянай быў дыпламатычна перадораны маёй маці (C'est la vie!) Сервіз жа я атрымала дзякуючы танным "Сібірскім пельменям". Апошнія заўсёды ратуюць мае кулінарныя здольнасці дні за чатыры да авансу з "Дома прэсы". На гэты раз наш сямейнік моўчкі паядалі "эмбрыёны" беляшоў 8 $^1/_2$ дзён запар. Чалавек да ўсяго прызвычайваецца. Безумоўна, ніхто б з нас не адмовіўся ад каланіяльных інгрэдыентаў: садавіны Афрыкі і нацыянальнай ежы эскімосаў — струганіны. Але ж мая сям'я мае даўнія стасункі з Сібір'ю: чуткі аб падзеях 1919 года і 1939 таксама цяпер перадаюцца нашчадкам у спадчыну. А падсаладжаную "цюру" нават і сын ведае ад маіх бабулек, якія абедзве засталіся ўдовамі ў 27 гадоў. Абедзве ў 27! Жылі ў Мінску, а марылі трапіць у Курск і Сталінград, дзе ляжаць іх мужы. Хацелі пастаяць на Той зямлі і па-бабску адгаласіць ёй жа. Не адбылося, як усё лепшае на гэтым свеце. Жанчыны — жоўтыя, чорныя, белыя — ведаюць матыў жалобных спеваў. Яго і сёння пачуеш у гарачай ці халоднай кропцы планеты.

Запытаецеся: дзе, нарэшце, нацыянальная асаблівасці свята жанчын у міжнародным кантэксце? Я падпішуся пад усімі здаровымі жаданнямі і намаганнямі сваіх планетарных сясцёр, акрамя аднаго. Я не хачу, каб мой сын набыў "сіндром выжывання" на сваёй гістарычнай радзіме. Навошта яму такая "свая крэпасць", калі для ягонай саракагадовай маці ўсмешка на твары — падобнае ж недасягальнае дзіва, як і кухонны камбайн "Moulinex"?! Баюся, што ён будзе даражыць усім тым, пра што я вам расказала. Навошта, калі віртуальная рэальнасць прыносіць болей карысці, чым ідэалогія пра светлую будучыню? Прабачце за прымітыўныя аргументы і мары двойчы дыпламаванай жанчыны. Дэкляраваць што-небудзь свайму дзіцяці я здольная, а гарантаваць магу толькі тое, што чалавек смяротны.

Ляці, сынок! Я — без крылаў, курыца з памяццю. Ці той нямы Атлант, што трымае Зямлю на плячах. З цягам часу "нямы" адгалосіць наперад за ўсіх родных...

А ты пачуеш і прыляціш да мяне 8 або 9 $^1/_2$ сакавіка, адным словам, у свята Маці. Ляці, бо рэаліі часу не адкрыюць табе файла космасу — "Шчаслівы чалавек". Дый і я не ўстане...

І свята са мной! І тройчы з тымі, хто прымусіў мяне мець такія мары.

**Жанна ВАСАНСКАЯ**

# "ОПЕРНЫ ТЭАТР — НЕ ПЕРАСОЎНЫ ЦЫРК..."

**Галоўнага хормайстра оперы гледачы практычна не бачаць, бо ён заўсёды застаецца за кулісамі гэтаксама, як мастак альбо рэжысёр...**
**З 1992 года калектыў опернага хору ўзначальвае Ніна Іосіфаўна ЛАМАНОВІЧ — сур'ёзны і глыбокі музыкант, рознабаковы і цікавы чалавек, які бясконца аддany тэатру.**



**— Ніна, у нашай краіне не так шмат прафесійных харавых калектываў, а оперны хор і наогул адзіны. Значыць, ваша пасада існуе ў адзіным экземпляры. Вядома, што галоўны хормайстар оперы — звычай, мужчынская прафесія. Жанчыны тут сустракаюцца гэтак жа рэдка, як і ў сімфанічным дырыжыраванні ці кінарэжысуры...**

— Мне пашчасціла. Жыццё звяло мяне з цудоўнымі педагогамі, цікавымі людзьмі. У Гомельскай музычнай вучэльні — гэта Пётр Фёдаравіч Кірэйцаў, выдатны музыкант з шырокім кругаглядам. Ён не толькі даў мне трывалую тэарэтычную базу ведаў, але і скіраваў іх у практычнае рэчышча. Менавіта ў класе харавога дырыжыравання адбылося першае знаёмства з операй, дакладней, з асобнымі試 опернымі сцэнамі. Бо ні ў Мазыры, ні ў Гомелі, дзе я жыла, няма опернага тэатра, і ўбачыць "жывы" спектакль на сцэне я не магла.

Ну, а потым — Белдзяржкансерваторыя, клас народнага артыста Беларусі Аляксея Пятровіча Кагадзеева, галоўнага хормайстра Беларускай Оперы. Я даведалася, што такое цяжкая праца артыста оперы, якіх намаганняў патрабуе ад пастановачнага калектыву не толькі прэм'ера, але і кожны спектакль. І... "захварэла" на тэатр. Усе заняткі ў кансерваторскім класе харавога дырыжыравання, можна сказаць, "ажылі". Аляксей Пятровіч навучыў мяне не толькі слухаць, але і "бачыць" кожнае вучэбнае заданне, а таксама разумець праз нотны тэкст, што такое мастацкі вобраз, драматургія... Так я прыйшла ў тэатр яшчэ ў студэнцкія гады. У 1976 годзе мне давeрылі першую самастойную пастаноўку. "Дон Паскуале" Г.Даніцэці — мая дыпломная работа. Дарэчы, гэты спектакль быў дыпломнай работай вядомага опернага рэжысёра з Пецярбурга Юрыя Аляксандрава, які з таго часу паспяхова супрацоўнічае з намі і паставіў на сцэне Беларускай Оперы "Казкі Гофмана" Ж.Офенбаха, "Рыгалета" Дж.Вердзі, "Князя Ігара" А.Барадзіна.

Кажучы пра настаўнікаў, хачу ўзгадаць Віктара Уладзіміравіча Роўду. Для мяне ён — найсур'ёзны аўтарытэт. І хаця я не вучылася ў ягоным класе, а толькі спявала ў хоры пад яго кіраўніцтвам, але мне вельмі хацелася назваць яго таксама сваім настаўнікам...

**— Я ведаю, што ледзь не ўсё вашае жыццё праходзіць у сценах тэатра. Больш за дваццаць гадоў вы працуеце з хорам, разам з іншымі энтузіястамі арганізавалі дзіцячую оперную студыю пры тэатры. Апошнія шэсць гадоў вы — галоўны хормайстар. Ну, вось, здавалася б, можна крыху разняволіцца... Але не.. Што ж прымушае вас па-ранейшаму рыхтаваць новыя пастаноўкі і ледзь не кожны вечар весці "звычайныя" спектаклі, што не ўваходзяць у абавязкі галоўнага хормайстра?**

— Так, усё правільна. Я па-ранейшаму прысутнічаю амаль на ўсіх оперных і балетных спектаклях, дзе заняты хор. Лічу гэта неабходным — я ж адказная за калектыў. Пасля кожнага спектакля, ужо дома, я дэтальна аналізую вартасці і недахопы выканання.

**— Праца, праца... Першая палова дня — рэпетыцыі на сцэне, заняткі ў харавых класах тэатра. Увечары — спектакль. А як вы "скідваеце" напружанне? Як адпачываеце? Падзяліцеся сакрэтам — як вам удаецца заставацца зграбнай, падцягнутай, заўсёды цудоўна выглядаць?**

*(Заканчэнне на стар. 8—9.)*

Ліст у рэдакцыю

# "НАМ ХАЦЯ Б АДЗІН КАМП'ЮТЭР. І — КАБ ЦЁПЛА БЫЛО..."

*"Да нас ідуць і прыязджаюць за класічнай музыкай з розных куткоў горада і з усёй краіны", — гаворыць дырэктар мінскай нотна-музычнай бібліятэкі Наталля Лур'е. Сапраўды, да бібліятэкі, што месціцца на Партызанскім праспекце, 3, добра дапасуецца азначэнне "унікальная". І не толькі таму, што тут, у адрозненне ад фанатэкі Нацыянальнай бібліятэкі, можна атрымаць кружэлку ў рукі — а гэта значыць, што можна прaслухаць любімае месца твора альбо месца, якое цяжка запамінаецца, не аднойчы, не двойчы, а столькі, колькі трэба. Заўважу да таго ж, што колькасць грамкружэлак складае ажно 16 тысяч экзэмпляраў. І да гэтай лічбы трэба дадаць яшчэ фонд дубляў-кружэлак, якія не выдаюцца наведнікам, але з якіх робяць запісы.*

*Калі паразважаць, дык слова "адзіная" можна скарыстаць у дачыненні да гэтай установы яшчэ з адной прычыны — бібліятэка, мабыць, адзіная ў горадзе, што знаходзіцца ў непрыдатным для яе памяшканні. Больш дакладна, гэта калектар, прыстасаваны пад бібліятэку. Хаця абаяльныя супрацоўніцы зрабілі ўсё, каб памяшканне з такой непрывабнай назвай стала прывабным з выгляду. Але нават падчас студэнцкіх "аўралаў" — зімовай і летняй сесій, калі штодня выдаецца да 700 кніг ды кружэлак і ў бібліятэцу не хапае крэслаў, каб пасадзіць усіх наведнікаў, бібліятэкаркі абслугоўваюць усіх без выключэння. У такія дні здараецца, што бібліятэкарцы нават на хвілінку нedаводзіцца прысесці, каб адпачыць. Студэнты — самы складаны і непрадказальны чытацкі кантынгент. Можна нават сцвярджаць, што гэтага "сезоннага натоўпу" супрацоўніцы чакаюць з насцярогай, бо потым часта знікаюць старонкі з кніг, і кружэлкі заўважна змяняюцца ў выгляду. Не дзіва: кожны студэнт бярэ па 10 — 15 кружэлак, каб запомніць асноўныя тэмы музычных твораў перад экзаменам. На жаль, у адрозненне ад літаратурных шпаргалак, на якіх можна ўціснуць нават раман "Вайна і мір", музычныя "дапаможнікаў" яшчэ не вынайшлі...*

*Але гэты тып чытачоў бібліятэкі не адзіны і не галоўны. Сюды прыходзяць сябры Саюза кампазітараў, супрацоўнікі філармоніі і тэатраў, аматары музыкі. А самая паважаная бібліятэкарка — Фаіна Львоўна Валковіч — можа не толькі параіць іхутка знайсці патрэбную літаратуру, але і адшукае патрэбны рэпертуар. Сёлета ўся бібліятэка адзначала "круглую" дату — 30-годдзе працы Фаіны Львоўны ў бібліятэцы. За гэты час шмат што змянілася: склад супрацоўнікаў, месцы знаходжання бібліятэкі. У папярэднім будынку на вуліцы Інтэрнацыянальнай, 13, нават здараліся патопы. І не толькі падчас вясновых паводкаў, але і пасля лёгкіх летніх дажджоў. І тады бібліятэкаркі, паводле сведчанняў старэйшай супрацоўніцы, надзявалі гумавыя пальчаткі і вылаўлівалі кніжкі з вады. А потым нацягвалі вяроўкі і сушылі іх, нібыта бялізну. І прасавалі...*

*Нeяк нават было афіцыйна зафіксавана, што "памяшканне пастаянна падчас ліўневых дажджоў затаплялася на дваццаць сантыметраў". Гэтыя часы Фаіна Львоўна ўзгадвае з усмешкай.*

*Але і цяпер становішча змянілася не на шмат...*

*Немагчыма сабе ўявіць, што будзе з фондам кніг і кружэлак гадоў праз 40 — 50, калі нічога не зменіцца. Фонд псуецца ўсё болей і болей. А за апошнія некалькі гадоў, у пасляперабудовачны час, калі згубіліся сувязі з асноўнымі нотнымі выдавецтвамі Масквы, Ленінграда і Кіева, паступленні новых кніг, нотных зборнікаў можна пералічыць па пальцах. Праўда, фонд усё ж папаўняецца — за кошт чытачоў, яны дораць бібліятэцы і кружэлкі, і кнігі. А вось кампакт-дыскі не дораць — няма сэнсу, бо бібліятэка не мае ніводнага прайгравальніка для CD. Гэткага становішча, напэўна, няма не тое што ў заходніх бібліятэках, але нават і ва ўсходніх. Не кажучы ўжо пра новыя інфармацыйныя тэхналогіі, якія сталі даступныя многім расійскім бібліятэкам, непазнавальна змяніўшы іхняе аблічча. А наша нотна-музычная бібліятэка марыць не пра падключэнне да Internet, а пра магчымасць набыць хаця б адзін камп'ютэр.*

*І яшчэ. Бібліятэка мае унікальны каталог, складзены на аснове аналізу літаратуры, перыёдыкі і аўдыёвізуальных матэрыялаў, якія сюды паступаюць. Назавіце любую песню альбо прозвішча выканаўцы — і вы зможаце даведацца пра іх літаральна ўсё. Такой дакладнай і падрабязнай картатэкі не мае нават Нацыянальная бібліятэка. Шкада, што захоўваецца ўсё гэта ў старых, "дзедавых" скрынях.*

*І ўсё ж "бібліятэка" марыць. Марыць пра новае памяшканне, вялікае, у цэнтры горада. Па магчымасці — цёплае. Уявіце сабе: сцены ў чытальнай зале шкляныя, а за імі музычны цэнтр, клуб па інтарэсах. Пачатак ужо пакладзены — 15 гадоў у бібліятэцы існуе музычны салон. Яго наведваюць і салісты тэатраў, філармоніі, вядучыя музыказнаўцы, кампазітары, юныя таленты. Аднак у апошнія гады стала цяжэй падтрымліваць той рытм частых сустрэч, што існаваў раней. І справа не толькі ў маленькім, непрыстасаваным памяшканні. Аказваецца, каб падтрымліваць творчыя стасункі, патрэбныя... грошы. Бібліятэка неаднаразова звярталася ў розныя інстанцыі, але пакуль — безвынікова. А мы ўсё роўна — марым...*

**Наталля ГАЛАЎНІЦЫНА**

# ПРЫГАЖОСЦЬ — НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЗДАБЫТАК БЕЛАРУСАЎ

***Невядома, каму першаму прыйшла думка ўзяць прыгажосць на Беларусі пад дзяржаўную апеку. Зразумела, гаворка не пра прыгажосць наогул. Нехта кемлівы разважыў: беларускія жанчыны, слава пра прыгажосць якіх ідзе бадай што па ўсім свеце, — чым гэта не нацыянальны здабытак? Чым не сродак да большага зацвярджэння нацыянальнага прэстыжу? Сапраўды, наша зямля не надта шчодрая на прыродныя багацці, але ж людзей таленавітых ды прыгожых нараджае шмат.***



Ліка Ялінская

## ШКОЛЫ ПРЫГАЖОСЦІ: НЕ БЫЛО НІВОДНАЙ, ДЫ РАПТАМ — ДЗВЕ

Школ прыгажосці за часам першых гадоў пасля перабудовы, гадоў нясмелага росквіту дзелавой ініцыятывы, было аж зашмат. Кожнае мадэльнае агенцтва абвяшчала сваю найлепшай, аднак па-сур'ёзнаму справа не рушылася — ды і ў якім напрамку яна магла рушыцца?

Размовы пра стварэнне дзяржаўнай Школы прыгажосці ўпершыню пачаліся прыкладна год таму. Афіцыйна нічога дакладна вядома не было, але з розных крыніц чулася, што на самым высокім узроўні ідэя падтрымана. Трэба было вызначыць адказную асобу, якая б узяла справу ў надзейныя рукі, паспяхова яе пачала ды і выніkі нейкія прынесла б. Сярод кандыдатур называліся розныя імёны, але часцей — першая беларуская прыгажуня спявачка Ліка Ялінская і дырэктар Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага каледжа Людміла Каробкіна. У адной быў энтузіязм, ахвота, нават прага павесці гэтую справу, сёй-той асабісты вопыт. Амаль нічога гэтага не было ў Людмілы Каробкінай, але затое ў дырэктара каледжа — вялікі вопыт паспяховага кіравання справай не менш далікатнай, чым выхаванне прыгажунь. Доўгі час абедзве прыходзілі ў памяшканні на вуліцы Мельнікайтэ, дзе на плошчах былога Дома Мод нумар 2 тэрмінова рыхтаваліся класы для Школы. У першай палове дня прыходзіла адна, апоўдні — другая, доўгі час абедзвюм казалі нешта накшталт: так-так, рыхтуецца заняць пасаду — але ж пасада была адна...



Наталля Траян (трэцяя злева ў першым радзе), Людміла Каробкіна і Юрый Брэус сярод сваіх выхаванак.



Красуні без макіяжу.

Першы набор у "Нацыянальную школу красы" яе дырэктар Людміла Каробкіна зрабіла летась у лістападзе, так і не дачакаўшыся заканчэння будаўнічых работ. Два дзесяткі сарамлівых і смелых, усмешлівых і сур'ёзных дзяўчат, пераможцаў і дыпламантаў рэгіянальных конкурсаў прыгажосці рознага кшталту, на некалькі месяцаў пасяліліся ў памяшканнях харэаграфічнага каледжа. Сталыя "жыхаркі" пацікавіліся, па першым часе нават праявілі цікавасць, паспрабаваўшы далучыцца да вучаніц-прыгажунь: ад самага пачатку было вядома, што вынікам навучання стане ўдзел у Першым нацыянальным дзяржаўным конкурсе прыгажосці. Аднак хутка танцоркі вярнуліся ў свае рэпетыцыйныя залы — з-за відавочнай сваёй перавагі, відаць.

Ліка Ялінская, якая засталася па-за справай, не захацела тым не менш развітацца з марай. Праз тры месяцы грамадскатворчае аб'яднанне Арт-клуб "Lika", дзе Ялінская — прэзідэнт, абвясціла аб планах стварэння ўласнай Школы прыгажосці.

## АРТ-КЛУБ, ЗОРНЫ САД І ДУША

***Даведка.*** *Арт-клуб "Lika" існуе з 1996 года, аб'ядноўвае творчых асоб самага шырокага накірунку дзейнасці — мастакоў, музыкантаў, дзеячаў эстрады. Згодна са статутам, асноўныя мэты клуба — папулярызацыя і развіццё мастацтваў, садзейнічанне нацыянальнаму ды культурнаму яднанню, дапамога творчаму росту таленавітай моладзі.*

Арт-клуб няблага спраўляецца з прадзюсерскай дзейнасцю, на яго ным рахунку арганізацыя і правядзенне шоу-паказу "Нацыянальная мадэль Беларусі-96", а таксама прадстаўленняў з нагоды ўручэння прэмій "Лепшы прадпрымальнік 1997 года", "Дзеці — будучыня планеты" (1997 г.). Зразумела, вялікая частка мерапрыемстваў базіруецца на творчасці вядомых асобаў мастацкага свету, якіх клуб аб'яднаў. Перш-наперш гэта сама Ліка і мастак Андрэй Смаляк.

Арт-клуб не цураецца дабрачыннасці, і не толькі ў традыцыйных для большасці беларускіх творцаў формах канцэртаў і іншых акцый на карысць пацярпелых ад Чарнобыльскай аварыі. Цалкам новая па задумцы акцыя "Зорны сад" мае мэтай дапамогу таленавітым дзецям з дзіцячых дамоў і школ-інтэрнатаў. Сэнс у тым, каб існуючыя "зоркі" артыстычнага свету Беларусі ўзялі пад персанальную апеку абдзеленых лёсам дзяцей. Згоду на ўдзел у акцыі далі ўжо Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, Аляксандр Саладуха, Таццяна Бандарчук і іншыя, нават — Алесь Байкоў. Яшчэ адна акцыя, "Душа", задумана для таго, каб звярнуць увагу грамадства на тых, хто аддаў жыццё творчасці, ды на схіле веку аказаўся бездапаможны.

І вось новы праект — Школа прыгажосці. Зразумела, гэта будзе любімае дзіця прэзідэнта клуба, Лікі. Зразумела, гэта наогул не першая прыватная такая школа. І яшчэ зразумела, што яна будзе адрозніваццa ад іншых, можа, не пераліkам дысцыплін ці таннасцю навучання, але тым, што непазбежна будзе несці адбітак асобы заснавальніцы. Можна па-рознаму ставіцца да кар'еры і творчых дасягненняў Лікі Ялінскай, але што бясспрэчна — гэта прыгожая жанчына мае характар. У свой час, калі пасля перамогі на конкурсе "Міс фота СССР" перад Лікай раскрыліся шырачэзныя перспектывы на сапраўды міжнародным узроўні, ёй, маладой дзяўчыне без вялікага жыццёвага вопыту, даваліся стаць перад даволі жорсткім выбарам: пайсці на павадку ў прадпрымальнікаў ад прыгажосці, якія ў формах дзейнасці не ведаюць абмежаванняў, ці захаваць перш-наперш чалавечую годнасць, захаваць павагу да самой сябе і прымусіць тых самых "эксплуататараў прыгажосці" мець на ўвазе гэтую, у пэўнай сістэме каардынат вельмі важкую велічыню — гонар (у лепшым сэнсе, зразумела). Ліка здолела зрабіць свой няпросты выбар. Як паказаў час, выбар быў правільны, хаця кар'ера мадэлькі для яе скончылася. Магчыма, у Школе прыгажосці Лікі Ялінскай гэта і будзе найбольш важнай дысцыплінай — выхаванне душы.



## ПЕРШЫ ДЗЯРЖАЎНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫ КОНКУРС ПРЫГАЖОСЦІ — І ЯШЧЭ АДЗІН КОНКУРС

18 сакавіка высокае журы, складзенае з найбольш паважаных і абцяжараных ведамі і вопытам асоб, у гарачых і жорсткіх спрэчках (гэта — безумоўна, хаця аб густах спрачацца і не раяць) абярэ самую прыгожую дзяўчыну краіны. Размах арганізацыі конкурсу ўражвае. Гэта — і разлічаная ўсеабдымная праграма, прызначаная, каб кожная ўдзельніца магла паказаць свае лепшыя якасці ў большасці складнікаў паняцця "прыгажосць". Гэта — даволі значныя сродкі на забеспячэнне належнага ўзроўню, у тым ліку, на падрыхтоўку касцюмаў для канкурсантак, зробленых па эскізах маладых прафесійных мастакоў у лепшых касцюмных майстэрнях, на мастацкім камбінаце Вялікага тэатра. Гэта і міжнародны прэстыж — у журы, разам з дзеячамі мастацтва, моды, рэкламы Беларусі запрошаны і відныя асобы з Агенцтва мадэляў Славы Зайцава і з Расійскай асацыяцыі высокай моды. Да конкурсу, зразумела, будуць допушчаныя толькі выпускніцы Нацыянальнай школы красы, па скарочаным курсе прайшоўшыя праз вывучэнне 19 (!) дысцыплін, самыя простыя з якіх — ангельская мова ды этыкет.

Наогул, калі Нацыянальная школа пачне працаваць па-сапраўднаму, тэрмін навучання тут будзе не менш 10 месяцаў, а можа — і два разы па 10 месяцаў. Паводле меркавання дырэктара Людмілы Каробкінай, ніхто пакуль не ведае, які тэрмін можа быць дастатковым для выхавання ці, дакладней, перавыхавання сапраўднай Прыгажуні.

У Школе Лікі Ялінскай толькі што скончыўся першы набор. Запланаваны тэрмін навучання — 3 месяцы. Але да будучых выпускніц ужо праявілі ўвагу не толькі мадэльныя ды рэкламныя агенцтвы, але і тэлебачанне, і прадстаўніцтвы замежных устаноў...

Так што і конкурсаў, відаць, атрымалася два. Першы — для дзяўчат-прыгажунь, якія ўзяліся за справу выхавання ўласнай прыгажосці. Другі — сярод школ, якія спаборнічаюць у якасцях навучання гэтай справе. Вынік такога кшталту спаборніцтва — паміж прыватнай ініцыятывай і дзяржаўнай справай, падтрыманай на самым высокім узроўні, — даволі прадказальны. А можа, я памыляюся? Пабачым, спадзяюся. І, дарэчы, без цынізму скажу, пабачым з прыемнасцю. Бо, што б там ні здарылася, але прыгажосць беларусак вартая ўвагі!

**Ігар КЛОКАЎ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**





# АДСУТНАСЦЬ ГУЧНАСЦІ Ў ПРОЗВІШЧАХ “КАМПЕНСАВАЛАСЯ НАЯЎНАСЦЮ”?..

Такім чынам, выстава расійскіх і беларускіх жывапісцаў-рэалістаў “Славянских городов негаснущий венец” у моцна ўрэзаным выглядзе пераехала з Масквы ў Мінск і ўсталявалася ў верхняй зале рэспубліканскага Палаца мастацтва. А да той пары яна экспанавалася ў выставачнай зале маскоўскага Малога Манежа. Яе арганізатары: з беларускага боку — Міністэрства культуры (фінансавы ўнёсак і транспарціроўка), Саюз мастакоў (бюро секцыі жывапісу прапаноўвала ўдзельнікаў выставы); з расійскага — Міністэрства культуры Расіі, Міжнародная канфедэрацыя Саюзаў мастакоў, а ініцыятарам праекта быў Камітэт руска-славянскага мастацтва Міжнароднай Акадэміі інфарматызацыі, прэзідэнтам якога з’яўляецца Валянціна Жылянкова.

Вось некалькі водгукаў маскоўскай прэсы на гэтую выставу.

*“... беларускі бок быў недастаткова поўна прадстаўлены на выставе. Аднак адсутнасць гучных беларускіх прозвішчаў кампенсавалася наяўнасцю тут твораў такіх маскоўскіх “асаў” рэалістычнай школы, як Віктар Іваноў альбо Мікалай Забелін...” (“Завтра”, № 4, 1998).*

Такім чынам, шаноўныя беларускія мастакі з “гучнымі прозвішчамі”, не засмучайцеся! Адсутнасць гучнасці ў вашых прозвішчах і надалей будзе кампенсавацца.. работамі нашых старэйшых братоў-масквічоў.

*“Новая экспазіцыя заклікана выявіць і ўмацаваць агульнаславянскія карані жывапіснай школы, што ўзнікла і развіваецца на ўсёй тэрыторыі былога СССР. Яна арганічна спалучыла ў сабе самабытную культурную спадчыну старажытных славян і праваслаўнага саборнага духу з найвышэйшымі ўзорамі мастацкай культуры Усходу і Захаду” (з прэс-рэлізу выставы).*

Ну ні дадаць, ні адняць! Асабіста на мяне раптам павеяла чымсьці да болю знаёмым з тых напаўзабытых часоў “самага перадавога ў свеце” метаду сацрэалізму, калі “класавасць, народнасць і партыйнасць” мастацтва “арганічна” абапіраліся на рэалізм перадзвіжнікаў. Праўда, з’явілася і новае: “праваслаўны саборны дух”. Такога раней у атэістычнай дзяржаве не было...

*“Творы жывапісцаў Масквы, Санкт-Пецярбурга і рэгіёнаў Расіі ў спалучэнні з творамі беларускіх мастакоў даволі поўна адлюстроўваюць тэматыку, жанры і віды жывапісу двух братэрскіх народаў” (“Щит и меч”, № 11, 30 студзеня).*

Мяркуючы па мінскай экспазіцыі — гэта далёка не так, хаця беларускаму боку і давялося ў аварыйным парадку, каб хоць якнебудзь уратаваць якасны ўзровень выставы, што прыбыла з Расіі, даставаць з фондаў карціны некаторых мастакоў “з гучнымі прозвішчамі” і закрываць імі голыя нішы, што ўтварыліся ў “тэматыцы”, “жанрах” і асабліва “ВІДАХ” жывапісу.

*“Усё ў гэтай выставе, — гаворыць М.Арлова ў газеце “Коммерсантъ-daily”, № 10, 24 студзеня 1998 года), — пачынаючы ад няўклюдна-красамоўнай назвы да фармальнай нагоды — візіту беларускага лідэра ў Расію, выдае ў ёй мерапрыемства хутчэй пратакольнае, чым мастацкае. Але акрамя ілюстрацыі актуальнай палітычнай ідэі — гістарычнага адзінства рускага і беларускага народаў — гэтая акцыя прэтэндуе і на штосьці большае. А менавіта на маніфестацыю новай рэдакцыі рэалізму, заснаванага цяпер не на класавай ідэі, а на чыста нацыяналістычнай, пан-славісцкай. Улічваючы падтрымку самых высокіх афіцыйных структур, гэтая акцыя ўжо цягне на прызнанне гэтага самага “славянскага” рэалізму новым саюзна-дзяржаўным стылем”.*

Безумоўна, Мілена Арлова перабольшыла, асабліва ў апошнім сказе. Спадзяюся, што, дзякуючы Богу, і час цяпер іншы, і паветра іншае, і людзі разумныя яшчэ не ўсе памерлі, каб “дырэктыўна” ўвесці ў мастацтва XXI стагоддзя “славянскі рэалізм” і зрабіць яго “новым саюзна-дзяржаўным стылем”.

Аднак на выставе я пачуваўся не вельмі ўтульна. Нібыта трапіў на паўзабытыя ўсесаюзна-рэспубліканскія агляды жывапісу 70-х. Праўда, на гэтай выставе не прадстаўлены былі бадай што “вайскова-патрыятычная” тэма і “тэма рабочага класа і калгаснага сялянства”. Але — з вялікай колькасцю соусу “шчымлівай” настальгіі па паміраючай “Великороссии” (а значыць, і Беларусі?) з яе мілымі, утульнымі пейзажамі, старымі сядзібамі, бярозкамі ды рэкамі, зімамі і вёснамі з гракамі, з бясконцымі цэрквамі ды кляштарамі. А на шыльдзе адной з работ нават было пазначана: “Раманаў. Крыжаўзвіжанскі сабор. VII стагоддзе”. Вось так — сёмае стагоддзе! За тры стагоддзі да хрысціянства на Русі...

**Б.К.**

**P.S.** І тым не менш, паклаўшы далонь на сэрца, скажу, што ўсё ж беларускія творы ў Мінску зрабілі на мяне больш прыемнае ўражанне...

# У ПОШУКАХ РАЎНАВАГІ



*Наталля Рачкоўская.*

Больш за 10 гадоў Наталля Рачкоўская, якая раней сцвердзіла сябе ў мастацкім свеце як таленавітая керамістка, ішла да свайго жывапісу. Упершыню мы ўбачылі яе палотны на выставе беларускага авангарда ў 1987 годзе. Потым яе карціны ўбачылі расіяне і ўкраінцы, палякі і італьянцы, аўстрыйцы і шатландцы.

Самой прыродай, здавалася б, Рачкоўскай быў наканаваны лёс жывапісца. Дзе, як не ў жывапісе, магчымыя цуды наяве. Нечаканае спляценне падзей, цудадзейства метамарфоз, алегорыя, памножаная на здольнасць зрабіць жывым нежывое, якая адчыняе за бачным, прадметным светам іншы — пластычна-асацыятыўны, філасофскі.

У серыях карцін “У пошуках раўнавагі”, “Вершнікі”, “Цяжар”, “Гульня ў трохкутнікі”, “Ружовае пачынае і выйграе” Рачкоўская ствараае сваю, асаблівую прастору, асвятляе яе сваім, асаблівым святлом душы, узводзіць нябачаныя пабудовы, расслойвае, напаўняе, вар’іруе фігуркі і прадметы паводле свайго жадання...

“Жаданне прыдумаць свой свет на палатне, — гаворыць мастачка, — вырвацца са звыклых уяўленняў і асацыяцый прымушае мяне выправіцца ў шлях, імя якога — ПОШУК, а зорка, што вядзе мяне — ІНТУІЦЫЯ. Але тут прысутнічае і элемент ГУЛЬНІ, што прыносіць вялікую асалоду ў працэсе працы...”

Задавальненне ад выставы жывапісу і керамікі Н.Рачкоўскай, што нядаўна праходзіла ў мінскім Палацы мастацтва, атрымалі і мы, гледачы.

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**



*Н.Рачкоўская. “Азірніся з любоўю”.*

# КВЕТКІ МАРЫІ ІСАЁНАК



*М.Ісаёнак. “Цішыня, дзяўчына, кветкі”.*

Адзін з наведнікаў выставы твораў Марыі Ісаёнак так сказаў, аглядваючы яе палотны: “Да чаго ж прыгожая душа ў гэтай жанчыны!” І, сапраўды, прасветлены, вельмі “жаночы” жывапіс Марыі, увасоблены ў яе пейзажы і нацюрморты, лёгка трапляе ў нашы закарузлыя душы.

Як лірычныя вершы з пырскамі свежых рыфмаў, як ціхая заспакоеная мелодыя, што прымушае ўзгадаць не толькі “мінулае”, але і кінуць новы позірк на навакольны свет...

Экспазіцыя жывапісу М.Ісаёнак, якая разгорнута ў галерэі “Мастацтва”, успрымаецца менавіта як глыток азонавага паветра сярод шэрых і доўгіх працоўных будняў. І хай усе гэтыя букеты палявых кветак, зялёныя інтэр’еры чалавечага жылля са сталамі, поўнымі садавіны; хай гэтыя цудоўныя чарневіцкія світанкі і апошні сакавіцкі снег, квітнеючыя палі Віцебшчыны і раскрытыя насустрач травеню вокны заўсёды нясуць нам радасць і надзею...

**P.S.** Нядаўна Кембрыджскім біяграфічным Цэнтрам у Лондане імя Марыі Ісаёнак унесена ў Біяграфічны слоўнік.

# ПАМЯЦІ РАМАНТЫКА



*Б.Ус. Аўтапартрэт.*

Пасмяротная выстава твораў Барыса Уса атрымалася невялікая, але вельмі насычаная жывым каларытам, цеплынёй чалавечых вобразаў, любоўю да беларускай зямлі. Карціна, партрэт, пейзаж — асноўныя жанры жывапісных прыхільнасцяў Б.Уса. І ва ўсіх — цэльнасць мастакоўскага погляду на навакольны свет, які бачыўся аўтару ў пранізліва-рамантычных танах. Барыс Назаравіч пражыў нялёгкае жыццё і, магчыма, таму ў сваіх палотнах ён увасабляў толькі святло, радасць, надзею і толькі зрэдку — сум...

# І Ў ПРАВІНЦЫІ ЖЫВУЦЬ ТАЛЕНТЫ...

У Музеі сучаснай беларускай скульптуры імя А.Бембеля працягвае працаваць выстава твораў Юрыя Палякова. Вучань Анатоля Анікейчыка, ён пасля заканчэння тэатральна-мастацкага інстытута паехаў на радзіму, на Талачыншчыну, дзе жыве і працуе дасюль. Робіць скульптуры з дрэва, высякае з мармуру, а паралельна навучае сваіх юных землякоў мастацтву лепкі і малявання ў дзіцячай мастацкай школе.

Тэмы і сюжэты ў Юрыя самыя розныя: жыццё аднавяскоўцаў, прырода роднага краю, роздумы пра сэнс жыцця і прызначэнне чалавека на зямлі, партрэты блізкіх. Большасць твораў выканана на добрым прафесійным узроўні, напоўнена сардэчнай дабрынёй і шчырасцю. Мабыць, меў рацыю А.Анікейчык, калі сказаў свайму выхаванцу перад дарогай: “Толькі на радзіме ты, Юра, знойдзеш свае сапраўдныя тэмы...”



*Ю.Палякоў. “Двое”.*

# ЖАНЧЫНЫ — СПАДАРОЖНІЦЫ НАТХНЕННЯ...


У.Хогарт. "Дзяўчына з крэветкамі".

Хогарт у 32 гады вырашыў ажаніцца з дачкой англійскага лорда Джэмса Торнвіла. Бацька яе, аднак, адмовіў, баючыся, што мастак не ў стане будзе утрымоўваць сям'ю. Але маці дзяўчыны, якая заўсёды захаплялася творамі Хогарта, вырашыла схітрыць. Яна набыла гравюру Хогарта і параіла дачцы ўсталяваць яе ў пакоі бацькі такім чынам, каб той пабачыў яе, пераступіўшы парог.

Сказана — зроблена. Увайшоўшы ў свой кабінет, сэр Торнвіл убачыў гравюру і ўсклікнуў у захапленні: "Цудоўная рэч! Як яна трапіла сюды?" — "Гэта апошняя работа Хогарта, я набыла яе", — збянтэжана адказала лэдзі Торнвіл. "Геніяльна! — сказаў лорд. — Чалавек, здольны стварыць такую рэч, можа атрымаць маю дачку без пасагу!"


А.Маёль. "Гармонія".

Арыстыд Маёль: "Калі дзяўчына праходзіць каля мяне, я адчуваю яе душу. Вось гэта я хачу перадаць у маёй статуі, — штосьці жывое і разам з тым нематэрыяльнае. Ствараючы дзявочую постаць, я хачу перадаць уражанне ад усіх дзяўчат. Маё пачуццё пераходзіць у мае пальцы".

Улюбёнай мадэллю Маёля напрыканцы ягонага жыцця стала Дзіна В'ерні. Усе апошнія творы мастака — і скульптурныя, і жывапісныя — звязаныя з гэтай жанчынай. І сярод іх — самая апошняя, цудоўная статуя "Гармонія", зграбная, светлая, але няскончаная, без рук, нібыта Венера Мілоская. Але ў яе незавершанасці — няма безнадзейнасці, а толькі яснасць позірку, скіраванага ў бясконцую прастору...

Цыцылія — так звалі жонку Тыцыяна. Акрамя партрэтаў з яе выявай засталіся сведчанні, што яна была вельмі акуратнай і дакладнай у гаспадарчых справах. Рашучая, яна штодзень патрабавала ад свайго вялікага мужа скрупулёзнай справаздачы пра ягоныя выдаткі. А з прычыны таго, што Тыцыян быў чалавекам вясёлым у кампаніях, яму даводзілася штодня вынаходзіць розныя хітрыкі, каб нейкім чынам апраўдаць свае выдаткі. Аднак жонку ён кахаў і горка аплакваў яе, калі тая памерла. Праўда, потым у яго было вельмі шмат жанчын...


Тыцыян. "Венера".


П.Рубенс. "Партрэт Гелены Фурман".

Ізабела Брант. Гэта першая жонка Рубенса. Пра яе мала што вядома. Мастак пражыў з ёю 16 гадоў і праз чатыры гады пасля яе смерці ажаніўся з багатай і прыгожай дзяўчынай з Фландрыі — Геленай Фурман, якую і ўвекавечыў на многіх сваіх партрэтах. Яна нарадзіла яму пяцёра дзяцей і пасля ягонай смерці выйшла замуж за іспанскага пасла ў Англіі.

**Аўтар "Мастыхіна" — Барыс КРЭПАК**


Рэмбрант. "Партрэт жанчыны з гваздзіком".

Саскія фон Уленбург увайшла ў гісторыю разам са сваім мужам — Рэмбрантам. Яе вобраз быў адлюстраваны на палотнах вялікага галандца неаднаразова. Саскія была вельмі прывабнай і заможнай жанчынай. І жылі яны шчасліва. Але ў 30-гадовым узросце Саскія памерла. Цэлых 12 гадоў Рэмбрант жыў самотна, пакуль не сустрэў Хендрык'е Стофельс. Але і яна неўзабаве пайшла ў іншы свет. А трэцюю, апошнюю жонку Рэмбранта звалі Катарынай Ван Вейк.


П.Гаген. "Манао Тупапау".

Поль Гаген ажаніўся рана. Пяцёра дзяцей падарыла яму датчанка Меттэ, якая марыла, што яе муж зробіцца камерсантам. Але ў 35 гадоў ён зрабіўся мастаком. А потым раптоўна пакінуў жонку з дзецьмі і паехаў на Таіці. Там ён ажаніўся з 13-гадовай "таіцянскай Евай" — Тэха'амане. "Потым настаў тыдзень, падчас якога я быў юным, як ніколі, — прызнаваўся Гаген. — Я быў закаханы і казаў ёй пра гэта, і яна ўсміхалася мне".

Самая цудоўная карціна, створаная Гагенам у гэтыя шчаслівыя мядовыя месяцы, адлюстроўвае, натуральна, Тэха'аману — "Манао Тупапау". Аднойчы мастак затрымаўся і вярнуўся дадому толькі ўначы. Алей у лямпе скончыўся, яна згасла, і ў пакоі было цёмна. Цыркнуўшы запалкай, Гаген убачыў жонку. Агаленая, скаваная страхам, палохаючыся начных прывідаў, яна ляжала на ложку...

Назва "Манао Тупапау" — Думка, альбо Вера ў прывіды. Тэма: душа жывой жанчыны яднаецца з душамі памерлых...

# "ЛЕНІН-КОТ..." — НАВУКОВЫ АСПЕКТ

Подлыя меншавіцкія пацукі, кожны з тварам канкрэтнай гістарычнай асобы, не даюць спакойна жыць, дапякаюць Ленінаката як могуць: поўзаюць па ім, усялякія гадасці ўтвараюць, нават калі ён спіць, сваімі тонкімі, брыдкімі хвастамі ў носе казычуць. А адкормлены махнаты Ленін, як той Леапольд, добры і лянівы, пакуль не прыняў "Азвярын", лавіць іх не жадае...

Што гэта? Каму і калі такая фантасмагорыя магла прыйсці ў галаву?

На гэтыя і яшчэ многія іншыя сур'ёзныя пытанні дае адказ Людміла Налівайка ў дысертацыі "Мастацкае жыццё Беларусі 1917 — 1932 гг. (плакат, часопісная і газетная графіка)", якая напрыканцы года была прадстаўлена да абароны на атрыманне навуковай ступені кандыдата мастацтвазнаўства спецыялізаванаму Савету ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К.Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Як афіцыйны апанент адразу адзначу, што дысертацыя ўразіла вучоных мужоў вялізарным аб'ёмам дакументальнага матэрыялу, навуковым адлюстраваннем фактаў і была паспяхова абаронена.

Каля пятнаццаці гадоў даследчыца па крыхах збірала матэрыял у архівах і музеях Беларусі і Расіі, скрупулёзна прааналізавала больш за дванаццаць тыражаваных выданняў 1920-х гадоў, знайшла паўсотні агітацыйных плакатаў часоў грамадзянскай вайны, вывучыла вялікую колькасць дакументаў кіруючых устаноў таго часу, інтэрв'юіравала жывых сведкаў тых далёкіх падзей. Даследаванне з'яўляецца надзвычай важным і актуальным, бо не толькі запаўняе "белыя плямы" ў гісторыі беларускага мастацтва, але і дае магчымасць прааналізаваць і вакрысатаць у сучаснай практыцы ўрокі гісторыі.

Асаблівую цікавасць маюць матэрыялы аб дзейнасці Віцебскай мастацкай школы "левага ўхілу", новыя факты грамадскай і мастацкай дзейнасці М.Шагала, Ю.Пэна, К.Малевіча, Л.Лісіцкага, В.Ермалаевай і многіх іншых.


Малюнак Панцеляймона Лепяшынскага, зроблены падчас ссылкі ў Енісейскім краі.

Найбольш важкі ўнёсак у беларускае мастацтвазнаўства, на наш погляд, робіць глава дысертацыі, прысвечаная мастацкаму жыццю перыяду 20-х гадоў. У ёй аналізуюцца дакументы ўрада, якія былі прызначаны даць накірунак творчай дзейнасці мастакоў, рэгламентавалі стварэнне творчых суполак, арганізацыю выставачнай дзейнасці. Вялікая ўвага надавалася дзейнасці Інбелкульта, які да 1932 года кансалідаваў мастацтвазнаўцаў, вучоных і мастакоў-практыкаў, арыентаваў творчую інтэлігенцыю на ідэі нацыянальнага адраджэння.

Матэрыялы даследавання даюць магчымасць рэабілітаваць шэраг імёнаў мастакоў, несправядліва абвінавачаных у "буржуазным нацыяналізме", "фармалізме", "нацдэмаўшчыне", занатаваць "беларускі перыяд" творчасці 1920-х гадоў у біяграфіях некаторых сусветнавядомых мастакоў. Вялікую ўдзячнасць заслугоўвае Л.Налівайка за даследаванне творчасці "беларускага перыяду" і арганізацыю сустрэч у Мінску дзевяностатрохгадовага фінскага мастака А.Ахола-Вало з навуковай і творчай моладдзю.

Частка матэрыялаў даследавання ўжо ўвайшла ў навуковы ўжытак: у шасцітомнік "Гісторыі беларускага мастацтва", у энцыклапедыю ЛіМ Беларусі, асобнай брашурай выдадзены матэрыялы "Да гісторыі мастацкага жыцця Віцебска (1918 — 1922 гг.)". Больш за 15 публікацый у рэспубліканскім друку прысвяціла даследчыца гэтай тэме.

Цікавага ж асноўная частка даследавання пакуль што застаецца недасягальнай для шырокіх колаў зацікаўленых чытачоў, студэнтаў. Таму пажадаем Л.Налівайка знайсці магчымасць хутчэй апублікаваць тэарэтычныя і ілюстрацыйныя матэрыялы ў асобным выданні. Пры ўсёй наўнасці плаката, газетнай і часопіснай графікі 1920-х гадоў, яны застаюцца унікальнай з'явай у гісторыі мастацтва XX стагоддзя.

**Уладзімір РЫНКЕВІЧ**

**У нядзелю, 15 сакавіка, у 15.10 па першай праграме беларускага радыё прагучыць перадача, прысвечаная юбілею Зары Далуханавай, дзе вы пачуеце голас дзівоснай спявачкі.**



Ах, Шелихин Шелихин...,
Зара Долуханова
З Долуханова

АЎТОГРАФ

# “АХ, ДАЛУХАНАВА, ДАЛУХАНАВА!!!”

Паглядзіце на гэты здымак. Як вам здаецца — што азначае такое загадкавае прысвячэнне? У мяне больш няма падобных да яго. А вось загадка самой спявачкі ў тым, як яна здолела стаць лепшай выканаўцай многіх вакальных твораў. У свой час была вельмі папулярнай венгерская песня “Жураўлі”. Яна часта гучала па радыё. Вельмі кранаалі многіх шчымлівыя словы: “как же случилось, не знаю — с милым гнезда не свила я”. Іх душы сумавалі разам са шчымлівай мелодыяй. Калі я сказаў спявачцы, што лепш за яе ніхто не выконвае гэтую песню, яна сціпла заўважыла: “Я её вообще не пою. Просто попросили сделать запись — вот я и спела”. Я бачыў, як плакала знакамітая венгерская оперная артыстка Марыя Дз’юркавіч, калі спявала “Жураўлёў”. А ўражанне было не такое, як ад той, што напісала загадкавы аўтограф. Ніхто лепш за яе не выконваў “Ave Maria” Вердзі і каваціну пажа з оперы Меербера “Гугеноты”. А ў запісаных на радыё партыях Анжэліны і Арзачэ ў операх Расіні “Папялушка” і “Семіраміда” ёй таксама няма роўных. Яна першай з усіх вакалістаў атрымала найвышэйшую ўзнагароду таго часу — Ленінскую прэмію. Аднак калі яе прадставілі да надання звання народнай артысткі Савецкага Саюза, міністр культуры Кацярына Фурцава адрэзала: “Хватит с неё и Ленинской премии”. Але праз шмат гадоў, калі артыстка ўжо спыніла канцэртную дзейнасць, справядлівасць усё ж узяла верх і найвышэйшы артыстычны тытул увянчаў непаўторную спявачку. А як жа інакш — гэта ж Зара Далуханава!

Упершыню я пачуў яе пасля бліскучага ўзлёту на міжнародным фестывалі моладзі ў 1949 годзе. Тады імя Далуханавай стала шырокавядомым у краіне і ва ўсім свеце.

Ад краю да краю рампа эстрады маскоўскай Калоннай залы застаўлена кошыкамі з кветкамі. І спявачка, сама прывабная як дзіўная кветка, пераносіла слухачоў сваім чароўным голасам у краіну скал і фіёрдаў — Нарвегію. Мне падалося, калі б цудам у зале мог апынуцца Эдвард Грыг з любімай жонкай Нікай Хагеруп, для якой ён пісаў свае рамансы, у іх душах пасвятлела б ад непаўторнага вакалу Зары Далуханавай.

А потым пачалася беларуская “Далуханіяна”. Для мяне яна знайшла адлюстраванне ў падараваных фатаграфіях. Некаторыя з іх вы тут бачыце, шаноўныя чытачы.

...Упершыню спявачка выступіла ў Мінску ў 1953 годзе і прыязджала ўвогуле шаснаццаць разоў. Яна прывозіла да нас значную частку свайго багатага і разнастайнага рэпертуару. Паміж яе выступленнямі ў Мінску мы сустракаліся з Зарай Аляксандраўнай на конкурсах, фестывалях, гала-канцэртах, на спектаклях і выставах. Яна пахваліла наш дуэт з Валерыем Кучынскім, калі мы ўдзельнічалі ў 1970 годзе ў Міжнародным конкурсе імя Чайкоўскага, дзе Далуханава была членам журы. Публіка заўсёды абагаўляла спявачку. Кожнае яе выступленне — свята ўзвышанага мастацтва, зграбнасці і найтанчэйшага густу. Яе цудоўнае ўбранне — таксама сапраўдныя мастацкія творы — дзівосна спалучаліся з прыгажосцю артысткі. Аднойчы, сустрэўшы яе авацыяй і падрыхтаваўшыся ўжо слухаць, зала зноў заапладзіравала, адзначыўшы так горача хараство жанчыны. Перад выступленнем Далуханава была вельмі сабраная, засяроджаная, бо спевы для яе —свяшчэнная справа. Затое, калі цуд адбываўся і слухачы дзякавалі сваім бурным прызнаннем, твар спявачкі асвятляўся ўсмешкай і ззяў, як у дзіцяці, якому падарылі доўгачаканую цацку. Яна шчаслівая і ўсе вакол — таксама!



У 1981 годзе ў Мінску праходзіў конкурс імя Глінкі. Прадстаўляючы членаў журы — знакамітых спевакоў, яго старшыня Ірына Архіпава назвала прозвішча “Далуханава”. Публіка наладзіла авацыю, як у часы яе канцэртаў. Пакланіўшыся, Зара Аляксандраўна села. Але яе выклікалі на паклон яшчэ раз, быццам “на біс”. Такога я ніколі больш не бачыў і шчыра парадаваўся за любімую спявачку.

За гады нашага сяброўства я не аднойчы бываў па запрашэнні Зары Аляксандраўны ў яе дома. Неяк патэлефанаваў, і яна пасля нашай размовы сказала: “Запрашаю вас на выстаўку”. На маё пытанне, хто мастак, з усмешкай адказала: “Я”. Удакладняю ў стылі яе настрою: а дзе тая выстаўка? “У мяне дома”, — быў адказ. І тут, скажу шчыра, мяне ахапіла нейкае сумненне. А што, калі яе жывапіс не захопіць майго сэрца? Як быць тады, як сябе паводзіць? Я ж вельмі люблю гэтую артыстку, якая ў спевах — сапраўдны вялікі мастак... Але ж! Купіў кветкі, заходжу ў кватэру. Прыемная сустрэча, узаемныя прывітанні, усмешкі, аднак непрыкметна кідаю погляд у прыадчыненыя дзверы пакоя і... ад сэрца адлегла. Зараз нават дакараю сябе злёгку: як я мог падумаць, што сустрэну нешта не тое? Вядома ж, калі чалавек таленавіты, дык часцей шматбакова. Перастаўшы выказваць сябе ў адным мастацтве, спявачка ўзяла ў рукі пэндзаль! Я шчыра захапляўся, пераходзячы ад адной карціны да другой. Якія яны сугучныя з вакальнымі споведзямі артысткі! Падзяліўся з гаспадыняй-мастаком сваімі перадуваходнымі трывогамі, што нагадвалі сітуацыю з оперы “Царская нявеста”. Там Любаша, заглянуўшы ў вакно і прыняўшы за сваю саперніцу другую, вымаўляе: “От сердца отлегло”. Мы пасмяяліся з Зарай Аляксандраўнай над гэтай фразай дастасоўна да нашых абставін. А я вельмі шчаслівы, што быў пазбаўлены неабходнасці хітрыць, хлусіць. Потым мы доўга размаўлялі, прыгадвалі, захапляліся, успаміналі. Мяне пачаставалі смачным лікёрам, чарачку выпіла і сама гаспадыня. А калі я спытаў, ці можна закурыць, Зара Аляксандраўна прынесла попельніцу і сказала: “Дайте и мне сигарету. Позволяю это себе иногда, лишь в исключительных случаях”. Наша лагодная гутарка набыла яшчэ больш узаемнацікавы характар.

Аднак час ужо і падзякаваць гаспадыні за такі сардэчны прыём. На развітанне я атрымаў у падарунак пейзаж з храмам, намаляваны на тонкай металічнай пласціне.

Спадзяюся, вы прачыталі ўсё, што напісала мне на сваіх фатаграфіях непаўторная, непараўнальная Зара Далуханава. Ну, скажыце, як мне самому сабе не зайздросціць, не ганарыцца і не быць шчаслівым? А ўсё ж, што азначае “Ах, Шелихин, Шелихин???”

Пятнаццатага сакавіка ў выдатнай артысткі юбілей. Ёй споўніцца... Не мае ніякага значэння, колькі! Зара Аляксандраўна — уся ў творчасці: удзельнічае ў журы конкурсаў, вучыць маладых спевакоў, кансультуе, вядзе курсы майстэрства. Яна — мастак! Дай ёй Божа добрага здароўя на новыя здзяйсненні! А я радасна і з захапленнем узношу да нябёсаў словы ўдзячнасці лёсу: “Ах, Далуханава, Далуханава!!!”

**Уладзімір ШЭЛІХІН**



# “ОПЕРНЫ ТЭАТР — НЕ ПЕРАСОЎНЫ ЦЫРК...”

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 2.)*

— Вольнага часу амаль няма. Дома я таксама ў думках “пракручваю” складаныя оперныя сцэны, цяжкія месцы харавых партытур — таму не ўмею разняволівацца, з цяжкасцю пераключаюся на іншыя справы. Гэта мая бяда. Што люблю? Кнігі, цішыню, поўную цішыню. Калі зрэдку выпадае магчымасць сустрэцца з сябрамі — таксама радасць... Артыст павінен заўсёды быць у “форме”. Для гэтага неабходна памятаць пра гімнастыку, фізічную актыўнасць і не ленавацца — вось і ўсё.

**— Удзельнікі хору — а іх 60 чалавек — праводзяць разам шмат часу і ў тэатры, і падчас гастроляў. Праца опернага артыста патрабуе велізарнага напружання сіл, псіхаэмацыйнай энергіі. Паколькі хор нашага тэатра паводле крытэрыяў акадэмічных Опер невялікі, то і нагрузка на кожнага артыста адпаведна павялічваецца. А калі ўлічыць вашую высокую патрабавальнасць і ўзгадаць пра мізэрныя заробкі... Словам, узнікае шмат пытанняў...**

— Кіраўнік опернага хору сустракаецца з мноствам праблем — агульных для ўсіх творчых калектываў і асаблівых, бо праца артыстаў тэатра вельмі напружаная і спецыфічная. Я патрабавальная да іншых, але ў першую чаргу — да сябе. У нашай працы вельмі важна зразумець, што задачы кіраўніка і ўдзельнікаў хору — як прафесійныя, так і мастацкія — агульныя. Гэта і з’ядноўвае калектыў. Спадзяюся, мы разумеем адзін аднаго як музыканты, як артысты тэатра, як людзі, нарэшце. Дастаткова адзначыць, што нам амаль незнаёмая “цякучка кадраў” — за апошнія пяць гадоў хор пакінулі толькі тры артысты.

Кіраўнік хору абавязкова мусіць быць добрым псіхолагам, каб адчуваць, калі можна павялічыць нагрузку, а калі гэтага рабіць нельга. Неабходна ўмела чаргаваць перыяды працы інтэнсіўнай і не вельмі, каб дазволіць людзям трошкі разняволіцца, адпачыць. Ну і, безумоўна, трэба заўсёды памятаць пра тое, што кожны з шасцідзесяці артыстаў — жывы чалавек са сваім характарам, магчымасцямі, праблемамі...

**— У апошнія гады Опера перажывае цяжкія часы. З аднаго боку — калектыў цудоўна сустракаюць за мяжой, з іншага — нізкія заробкі, перагрузкі. Бо дасюль няма другога саставу хору, як гэта робіцца ў іншых тэатрах, ва ўсякім разе ў тых, якія з гонарам называюць сябе Акадэмічнымі! А ваш харавы калектыў нават не ўкамплектаваны згодна са штатным раскладам...**

— Цяжкія часы спараджаюць цэлы комплекс праблем. Першая з іх — кадравая палітыка.

Вядома, што Оперны тэатр — адзіны на Беларусі. Можна было б чакаць, што лепшыя выпускнікі музычных вучэльняў краіны без перашкод трапяць да нас. Інакш узнікае пытанне — навошта так шмат вакальных аддзяленняў, калі мы не маем магчымасці прыняць на працу лепшых? Да таго ж, у нас ёсць вакансіі. Аднак складваецца парадаксальная сітуацыя: мы не можам запрасіць на працу іншагародніх артыстаў, бо ўзнікаюць неадольныя перашкоды — прапіска, жыллё... Міністэрства культуры павінна ўяўляць, што прафесія артыста опернага тэатра унікальная — гэта павінны быць маладыя людзі, якія валодаюць вялікімі, як кажуць, опернымі галасамі, прафесійна падрыхтаваныя, з добрымі знешнімі дадзенымі. Менавіта спецыфіка працы, а зусім не фармальны штамп у пашпарце диктуе нам крытэрыі адбору артыстаў. Без сумнення, патрэбная больш гнуткая кадравая палітыка, што дазволіла б зрабіць выключэнне з агульных правілаў для таленавітай моладзі. Мы задыхаемся без кадраў! Тэатру патрэбныя свежыя сілы. Бо Беларуская Опера — гонар краіны.

Ну, і адваротны “бок медаля”. Матэрыяльнае становішча артыстаў, на жаль, амаль жабрацкае. Даводзіцца думаць і пра “хлеб.надзённы”. Тут нам троху дапамагаюць замежныя паездкі.

**— Давайце пагутарым пра гастролі. Я чула, што ўмовы кантрактаў часта невыгодныя, а часам проста непрымальныя, калі, да прыкладу, адзін саліст выконвае ў спектаклі тры партыі альбо замест неабходных васьмідзесяці ўдзельнікаў спектакля запрашаюць толькі дваццаць. Да таго ж ганарары беларускіх артыстаў у параўнанні з замежнымі калегамі проста смешныя. Што ж прымушае вас прымаць падобныя прапановы? Толькі матэрыяльныя падставы?**

— На жаль, былі і такія паездкі. Цяпер ужо мы не пагаджаемся на ганебныя ўмовы і не хочам мець спектаклі ва ўрэзаным выглядзе альбо з “агрызкамі” замест цудоўных дэкарацый. Мы больш не хочам “губляць твар”. Беларускі Оперны тэатр, якому больш за 60 гадоў, — не перасоўны цырк і павінен быць прадстаўлены за мяжой годна.

**— Гадоў дзесяць таму ў Мінску адбыўся Усесаюзны оперны фестываль, у якім бралі ўдзел оперныя калектывы з розных гарадоў СССР — Тбілісі, Пярмі і г.д. Зала была перапоўнена... Гэта было сапраўднае свята і для аматараў**

Марыялогія

# ВЯЛІКАЯ КНЯГІНЯ ВКЛ І КАРАЛЕВА ПОЛЬШЧЫ АЛЕНА ІВАНАЎНА І ЯЕ СВЯТЫНІ

***Сярод моцных, рашучых і ўладных князёў і каралёў Алена Іванаўна, дачка апошняй візантыйскай прынцэсы Сафіі Палеалог, прыгожай, вытанчанай і ўпартай жанчыны, і маскоўскага князя Івана III, жонка хваравітага і мудрага караля польскага і Вялікага князя ВКЛ Аляксандра Ягелончыка, вылучалася надзвычай мяккім, спагадлівым характарам. Вось як у "Хроніцы Быхаўца" апісана ўражанне сватоў і паслоў ВКЛ ад маладзенькай князёўны Алены: "А калі ўбачылі яе паслы, падумалі, што гэта анёл у чалавечым абліччы, і, разгубіўшыся ад такое пенкнаты, стаялі як укапаныя. А потым упалі да ног яе, просячы, каб князя і гаспадара іх у ласцы сваёй захавала, а яна заплакала".***



Каложская Адзігітрыя.

У старабеларускай і старапольскай гісторыі гэтая вялікая княгіня і каралева была падобна да вобраза біблейскай Руфі, жонкі радавітага Ваоза, прабабкі Давіда, прашчура Бога-Сына Хрыста. Яна гэтак жа шчыра палюбіла давераны ёй лёсам і воляю Божаю народ, яго край, як і біблейская Руф. На землях Рэчы Паспалітай яна стала апякункаю навукі, мастацтва, рэлігіі. Незвычайная мудрасць, стрыманасць, згарманізаванасць характару княгіні і каралевы Алены ўражвалі сучаснікаў. Сярод іх быў і рымскі папа, які пераканаў маці Аляксандра, каралеву Альжбету ў плённасці гэтага сужонства. У сувязі з пагранічнымі канфліктамі паміж Масковіяй і Рэччу Паспалітай, пыхлівасцю і фанабэрствам польскага магнацтва (якое лічыла сябе ледзь не найвысакародным у Еўропе) Алена Іванаўна адмовілася каранавацца на Каралеўства Польскае і не прысутнічала на каранацыі Аляксандра Ягелончыка (12 снежня 1501 г.). У Кракаў яна прыехала толькі 4 лютага 1502 г. І нягледзячы на яе праваслаўнае веравызнанне, скароны высакародствам душы княгіні Алены, папа рымскі Юлій II благаслаўляе іх шлюб як каралеўскі і дазваляе Алене Іванаўне мець годнасць каралевы польскай (1505 г.). Кароль Аляксандр заўсёды раіўся са сваёй жонкай у справах дзяржаўных. Неаднойчы аб'язджаў з ёю польскія і беларуска-ўкраінскія землі. Алена дапамагала свайму цяжка хвораму мужу сфарміраваць апалчэнне і накіраваць яго супраць ворага. Падзеі адбываліся ў Лідскім замку, апалчэннем кіраваў М.Глінскі. У 1501 — 1503 гг. Алена Іванаўна атрымала ад мужа землі ў Віленскім і Трокскім паветах, у ваколіцах Мінска і Гародні, замкі на магілёўскіх землях ля Мсціслава, у Чачэрску. Каралева шчодра падтрымлівала Мінскі Вазнясенскі манастыр, ягоны архімандрыт Іона пры спрыянні Алены Іванаўны пазней стаў мітрапалітам Кіеўскім і Галіцкім. Княгіня Алена апекавалася Супрасльскай Лаўрай.

Як сцвярджаюць гісторыкі, Алена Іванаўна прывезла на землі Рэчы Паспалітай некалькі цудадзейных абразоў, сярод іх Віленская Адзігітрыя, Бельская ікона Божай Маці. З Віленскай іконы Багародзіцы былі зроблены копіі ў 1495 г., у час, калі княгіня Алена стала жонкаю князя ВКЛ Аляксандра Ягелончыка. Сярод іх і Каложская ікона, якая першапачаткова знаходзілася ў старажытнай Каложскай царкве ў гонар Барыса і Глеба, пабудаванай у XII ст. (У 1855 г. частка царквы разбурылася, і на беразе р.Нёман захаваліся толькі велічныя руіны, у наш час ідзе адраджэнне святыні.) Пасля ікона была перанесена ў Барысаглебскі мужчынскі манастыр, дзе праславілася шматлікімі цудамі, велічнымі знаменнямі. Святкаванне ў гонар іконы адбываецца 22 ліпеня (4 жніўня). Напісана ікона на палатне, наклееным на дошку. Штогод ладзяцца тыднёвыя паломніцтвы з Гародні ў Жыровічы на Свята Успення ад царквы з копіяй гэтай іконы.

Ікона Каложскай Адзігітрыі знаходзілася ў галоўнай царкве гарадзенскага мужчынскага манастыра, заснаванага князем К.Сапегаю, падкорміем ВКЛ (1621 г.). З-за яе аварыйнага стану ў 1854 г. адбудоўваецца каменная царква. Напісана ікона на мядзянай дошцы, пакрывае яе пасрэбраная шата, вянцы Прачыстай і Выратавальніка ўпрыгожаныя гранатамі, агатамі і сердалікамі. Іканаграфічны тып Каложскай Адзігітрыі змяшчае ў сабе рысы і "Неапалімай Купіны": на палях выразаныя старазапаветныя прадказанні пра Божую Маці.

Ікона змяшчаецца ў мядзяным кіёце са шклом і ўнутраным замком. У пятніцу перад Вячэрняй служыцца Акафіст перад гэтай іконай. Сваім замілавана-тужлівым поглядам, тонкім румянцам Каложская Адзігітрыя родніцца з Жыровіцкай іконай "Замілаванне". Засведчаны шматлікія ацаленні ўсіх насельнікаў краю: хрысціян, яўрэяў, магаметан ад цудадзейнай іконы.

**Алена ЯСКЕВІЧ, кандыдат філалагічных навук.**

**оперы, і для артыстаў. Чаму б не адрадзіць практыку оперных фестываляў на беларускай зямлі? Бо знайшлі ж магчымасць наладзіць "Славянскі базар", які заняў трывалае месца ў музычным жыцці ўсяго славянскага свету. А ў 1996 годзе ў Мінску адбыўся Міжнародны конкурс піяністаў. Опернае свята магло б узняць міжнародны прэстыж не толькі нашага тэатра, але і ўсяго беларускага мастацтва. Што вы думаеце пра гэта?**

— Гэта было б выдатна! У нас ёсць усё — жаданне кантактаваць, цікавасць, цудоўная сцэна. І, без сумнення, ёсць што паказаць — яркія пастаноўкі апошніх гадоў, таленавітая моладзь, якой як паветра неабходныя творчыя стасункі. Можна было б запрасіць оперныя сілы не толькі з краін блізкага, але і далёкага замежжа. Бо нават геаграфічнае становішча Беларусі спрыяе таму, каб наша сталіца стала "культурным мастом" паміж опернымі тэатрамі Захаду і былога СССР. А для гэтага кіраўніцтву краіны трэба падтрымліваць свой адзіны тэатр, які па сваім творчым патэнцыяле не слабейшы за Оперы Заходняй Еўропы. Трэба толькі дапамагчы нам.

**— Праблемы... Яны існуюць для таго, каб іх вырашаць. Аднак, у жыцці заўсёды знаходзіцца месца для мары... А што б вам хацелася здзейсніць у бліжэйшай будучыні?**

— Адна мая даўняя мара ўжо спраўдзілася. Напрыканцы лютага на нашай сцэне адбыўся канцэрт опернага хору, першы за перыяд з 1946 года. Планаў шмат... Хацелася б зрабіць відэазапісы нашых лепшых пастановак, каб працягнуць іхняе жыццё... Опера — жывое мастацтва, і кожны спектакль нараджаецца, жыве і памірае...

**— Дзякуй за размову, і хай спраўдзяцца вашыя запаветныя мары.**

**Гутарыла Людміла ІЗМАІЛАВА**

# ТРЫМАЕЦЦА ЛЮБОВІ

***Лёс жанчыны ў мастацтве звычайна незайздросны і часцей за ўсё пакутлівы. Бо мастацтва па сваёй сутнасці гэта зусім не прафесія, а шлях у жыцці, які патрабуе поўнай самаадданасці, нават самаахвярнасці.***



Любоў Дукальская.

Падобныя разважанні ў дачыненні да лёсу Любові Дукальскай — аднаго са старэйшых мастакоў-педагогаў віцебскай мастацкай школы зусім не аднaзначныя.

Дукальская нарадзілася ў 1924 годзе ў в.Курына, што пад Віцебскам, у сям'і доктара, які пасля заканчэння медыцынскага факультэта Маскоўскага універсітэта вырашыў пашукаць у вёсцы больш-менш сытнай долі для сваёй сям'і. Карэнны віцябчанін, ён разам са сваёй жонкай — маці Любові, выхаванкай марыінскай гімназіі, нават абзавёўся традыцыйнай хатняй жывёлай, аднак так і не стаў вясковым жыхаром.

Ужо ў 1925 годзе, вярнуўшыся ў Віцебск, сям'я Дукальскіх пасялілася ў двухпавярховым доме (па Бязбожным завулку), які да рэвалюцыі цалкам належаў бабулі Любові. "Экспрапрыяцыя" дома савецкай уладай, дзякуй богу, не пацягнула за сабой высяленне яе былых уладароў. І хоць першы паверх цалкам заняла міліцыя, пакоі на другім паверсе здымалі Дукальскія.

Атмасфера ў сям'і была асаблівай. Тут заўжды жылі духоўнымі інтарэсамі, літаратурай, музыкай. Маці добра спявала, бацька іграў на габоі ў аркестры. "Мой прадзед, Іосіф Аляксандравіч Туржанскі, жыў з намі, — успамінае Дукальская. — Быў ён мастаком, спецыяльнымі фарбамі пісаў па шоўку. Я заўжды з вялікай зайздрасцю сачыла за яго працай. Перад смерцю ён падарыў мне свой чырвоны скураны з залацістым цісненнем эцюднік, выклеены зялёным сукном. А ўвогуле я любіла маляваць з дзяцінства. Памятаю, як адзін наш добры знаёмы дазволіў мне паспрабаваць пісаць алеем. Стоячы перад невялічкім па памерах палатном, трымаючы ў руках сапраўдную палітру, я адчувала сябе акрыленай..."

У 1940 годзе Любоў Дукальская паступае ў Віцебскую мастацкую вучэльню. Але правучылася яна там зусім нядоўга, бо пачалася вайна. Таму і ў памяці захавалася няшмат. Адзінае, што адразу ўразіла і кранула душу ў вучэльні, дык гэта праца з першых дзён у тэхніцы алейнага жывапісу.

З пачаткам вайны было загадана эвакуіравацца са шпіталем у тыл. Нягледзячы на тое, што старэйшая сястра Любові — Алена ў гэты час ляжала без прытомнасці моцна хворая, вырашылі ехаць усёй сям'ёй. Рэчаў з сабой не ўзялі ніякіх. Шлях ляжаў у Валакаламск. Менавіта там, у былой сядзібе Ганчаровых, гістарычных мясцінах, звязаных з імем А.С.Пушкіна, і размясціўся ваенны шпіталь, які стаў месцам працы і прытулкам для ўсёй сям'і Дукальскіх.

Пасля заканчэння вайны быў Краснаярск. Менавіта тут Любоў сустракаецца з цікавымі людзьмі, навукоўцамі, мастакамі, якія былі эвакуіраваны сюды. Тут жа ў майстэрнях маладая мастачка наладжвае сваю першую сціплую персанальную выставу.

З вялікімі спадзяваннямі Люба накіроўваецца ў Свярдлоўск паступаць у Вышэйшую мастацкую вучэльню. Прывозіць вялікую папку сваіх прац і... даведваецца аб тым, што прыём ужо завершаны. Канчаткова разгубленая, яна ўсё ж такі здолела ўгаварыць выкладчыкаў паглядзець яе малюнкі.

І не маючы ніякай надзеі, Любоў раптам пачула з вуснаў выкладчыкаў пытанне: "А на які курс вы хочаце?". Калі яе залічылі на другі курс мастацка-педагагічнага аддзялення, радасці, здаецца, не было межаў...

У якасці пераддыпломнага задання ў вучэльні звычайна прапаноўвалася выкананне копій з твораў вядомых майстроў жывапісу. Копія малавядомага твора І.Рэпіна "Пасля балю", выкананая выпускніцай, была адразу забрана ў фонд вучэльні. Са шкадаваннем расстаючыся са сваёй працай, Дукальская вырашае зрабіць для сябе яшчэ адзін паўтор кампазіцыі славутага мастака. Калі пісала яе, забывалася пра ўсё на свеце. Апошняя копія і сёння вісіць над шыкоўным нямецкім піяніна, нагадваючы аб далёкіх гадах маладосці. Насуперак накіраванню ў Нальчык Дукальская едзе ў Віцебск.



Л.Дукальская. "Пейзаж з лодкай".

Дзякуючы падтрымцы Акіма Салохі — тагачаснага дырэктара Віцебскай мастацка-педагагічнай вучэльні, яе ў 1951 годзе прымаюць на працу выкладчыкам. Дукальская выкладае ў гэты час жывапіс і малюнак, чытае лекцыі па гісторыі мастацтваў.

Гадзін на малюнак і жывапіс адводзілася ў вучэльні вельмі мала, "аднак я адносілася да іх падрыхтоўкі вельмі адказна, аддавала гэтай справе значную частку свайго зусім не вольнага часу". Мастачцы не давала спакою і ненатоленая смага мастацкіх ведаў, уменняў... Любоў рыхтуе працы і дакументы на завочнае аддзяленне Маскоўскага паліграфічнага інстытута. За малюнак, жывапіс і кампазіцыю атрымлівае "выдатна", а вось гісторыю (зразумела ж, КПСС!) завальвае на "траяк", ды яшчэ ў сваім жа інстытуце ў Віцебску (такое дазвалася ў той час. — **М.Ц.**). Так марам Дукальскай не суджана было здзейсніцца.

Асабліва ў складаным становішчы апынулася Дукальская напярэдадні ператварэння вучэльні ў мастацка-графічны факультэт педінстытута. Ёй "тонка намякалі" на недастатковасць мастацкай адукацыі, і мастачка пачала шукаць новае месца працы. Лёс прывёў Дукальскую ў Мазырскі педінстытут. Тут на працягу пяці гадоў яна выкладае ўсе прадметы выяўленчага цыкла на аддзяленні пачатковых класаў. Уяўляючы фармальную неабходнасць атрымання вышэйшай адукацыі і адначасова не маючы рэальных магчымасцяў выбіраць нешта іншае акрамя Мазыра (бо на руках ужо была маленькая дачушка Наташа), Любоў паступае і паспяхова заканчвае аддзяленне, на якім выкладала жывапіс і малюнак.

Але Віцебск цягне непамерна! Таксама як і жаданне працаваць у сапраўдным мастацкім асяродку. І ў 1967 годзе Любоў Дукальская вяртаецца ў Віцебскі педінстытут на мастацка-графічны факультэт. Спачатку выкладае тэхніку жывапісу, малюнак,а потым цалкам спецыялізуецца на алейным жывапісе. Пры гэтым яна не пакідае і акварэлі, працуе творча, малюе, піша эцюды...

"Я не прыхільніца сучасных жывапісных плыняў, я рэалістка, — заўважае Любоў Канстанцінаўна. — Мне асабліва падабаюцца такія мастакі, як М.Рамадзін, М.Несцераў, браты А. і С.Ткачовы. Але я, здаецца, ніколі не імкнулася творча абмяжоўваць сваіх вучняў ці прымушаць іх рабіць адпаведна маім уяўленням аб мастацтве. Я думаю, мае выхаванцы наўрад ці маюць падставы крыўдаваць на мяне за прыцісненне іх мастацкіх памкненняў. Прыемна, што большасць з тых, хто вучыўся ў мяне, на першае месца ў творчасці ставяць працу з колерам, чаму я заўсёды надавала важнае значэнне. Што ж датычыцца ўласных творчых дасягненняў, то яны, я лічу, даволі сціплыя. На вялікія, значныя творы проста не хапала часу".

І гэта не дзіўна, бо Любоў Дукальская заўжды больш жыла інтарэсамі і памкненнямі сваіх вучняў, рыхтуючы новыя пакаленні ў свет, якія трымаецца на Любові да мастацтва.

**Міхась ЦЫБУЛЬСКІ**
*Віцебск*

# КУЛЬТУРА

***Нядаўна ў рэдакцыю прыйшоў "канфліктны" ліст. Аўтарка яго ўбачылася нам тыповай жанчынай з нашага недалёкага "камуністычнага" мінулага з усімі пругкімі саўковымі комплексамі калектыўных "роўнасці і братэрства" ва ўсім. Ліст быў апублікаваны ў суправаджэнні адказаў і меркаванняў. Здаецца, пытанне было вычарпанае... Але аднойчы да нас завітала немаладая жанчына з маладымі вачыма і кажа: "Я — Марыя Міхайлаўна Салдатава"... Праз дзве гадзіны мы ўжо ведалі "моманты" яе жыцця, усе здзейсненыя і, у асноўным, нядзейсненыя мары — яе болі і радасці...***

***І — пераканаліся, што рэчаіснасць значна шырэйшая і глыбейшая за нашыя пра яе ўяўленні.***

## "МАЛАНКА"

*Яна нарадзілася ў вёсцы на Гродзеншчыне, была трэцяй сярод семярых дзяцей. Бацька — селянін, фанатычны вернік, кіраўнік царкоўнага хору. Ці будзе ўраджай, ці паправіцца дзіця ад хваробы, ці ёсць у хаце хлеб, — "як Бог захоча". Марыя была ў хаце галоўнай памочніцай маці і нянькай. Мянушка яе ў вёсцы была —"Маланка"... Мара дзяцінства: "Божачка, зрабі так, каб я стала артысткай!" Не зрабіў. Затое даў жыццё, якога "хапіла б на ўсю Санта-Барбару і яшчэ для "проста Марыі" засталося б". Прыгажуня, у 19 гадоў пайшла замуж не з вялікага кахання, а з вялікага шкадавання да ціхага і незаўважнага чалавека, чым, сама не ведаючы таго, "заклала" ў сваё жыццё вечную драму. А потым ужо і характар, і лёс вызначылі жыццё.*

... Хацела пайсці вучыцца туды, дзе плоцяць большую стыпендыю. А яна была большай там, куды менш паступалі. І пайшла ў гандлёва-кааператыўную школу, і зрабілася бухгалтарам. Не тое, што хацела, а тое, што трэба. А потым і мужа сустрэла. Моўчкі хадзіў за мной... ("Трэба было прыбівацца да берага...")

Дачцэ было тры месяцы, а трэба было здаваць экзамены ў завочным тэхнікуме. Склала валізку — і паехала. І здала іспыты. Стала бухгалтарам. І мара пра сцэну так і засталася марай...

Зведаўшы сямейнае "шчасце", вучыла дачку: замуж наогул ісці не трэба, галоўнае — любімую прафесію набыць.

*Дачка ўсё ж знайшла свайго суджанага, і ў яе ўсё добра. Сын — журналіст. І ў яго жыццё нібыта някепска ўсталявалася. І наша гераіня лічыць, што ў гэтым і ёсць сэнс і вынік яе жыцця. Ахвярнасць гэтай жанчыны — "галоўная" лінія яе лёсу, якую яна пабудавала сваімі рукамі.*

### МАЁ КАХАННЕ — СІРАТА

Прыгожая была, але дурніца... А ён — маўчаў заўсёды (значыць, разумны...), пры пагонах — (самастойны), непрывабны — (будзе ўсё жыццё ўдзячны і на руках насіць). А мне... дзевятнаццаць. Не ведала і не магла ведаць, што замуж трэба ісці толькі тады, калі не пайсці — памерці. Кахаць трэба.

Была ў маім калектыве жанчына, сталага ўжо ўзросту. і сказала яна: "Я на тваё вяселле не пайду. Не хачу бачыць нявесту, якая будзе ўсё жыццё плакаць. Ты паўтараеш мой лёс. Замуж ідуць, калі кахаюць, а не тады, калі дазваляюць сябе кахаць". Яна пайшла ад свайго першага мужа і знайшла сваё шчасце, а я не наважылася: думка пра дзяцей не дала аднавіць справядлівасць кахання. Хаця быў чалавек, якому я магла даверыць свой лёс... Але не здолела...

Для мужа галоўным у жыцці былі ягоныя вайсковыя дзяжурствы, а для мяне — дзеці. Побыт "заеў". Пятнаццаць гадоў без кватэры, побытавыя праблемы, абыякавы і раўнівы муж, і — дзеці, дзеці, дзеці... На сябе забылася. Маё каханне — сірата. І не было яго болей, кахання... Мае каханыя мужчыны жылі на экране тэлевізара... Мужу я не здраджвала, бо не разумела адносінаў без пачуццяў.

### ВЫБАЧЭННІ ГЕНЕРАЛА

Дачка вучылася ў дзвюх школах: звычайнай і музычнай. Жылі ў гарнізоне ў Жалудку. Настаўнік музыкі прыязджаў на свае ўрокі. Не школа, а "курсы". Пачала заўважаць: дачка кожную вольную хвіліну бяжыць да інструмента, нібыта да любімай цацкі. Стварае музыку, не можа дачакацца ўрока... А ёй толькі шэсць гадоў. Аднойчы я паказвала сыну ноты: удару па клавішы — ён "угадвае". Чую, дачка крычыць: "Табе ж мама толькі што сказала, што гэта — "до!". Праверыла я сваю Таню — ніводнай памылкі. Я пайшла да настаўніка, а ён кажа: "Я даўно ведаю, што яна адораная, але што можна зрабіць у такіх умовах? Ёй патрэбная школа пры кансерваторыі ў Мінску". Гэта ж мая дачка, а я яе маці! Пайшла я да камандзіра часткі Росіна. А ён смяецца ў адказ: "Ну, і нахабніца! Вось, як ты ў Мінск выбрацца хочаш!" Выклікае зампаліта і загадвае ехаць са мной у Гродна ў музычную вучэльню, каб прывезці адтуль паперу пра талент маёй дачкі. У вучэльні сказалі, што ў такога маленькага дзіцяці не бывае абсалютнага слыху. Трэба ісці ў музычную школу і правяраць яе там на пачатковым узроўні. Зампаліт ім сказаў, што камандзір хоча пераканацца, што гэтая жанчына маніць і што яму патрэбная папера, заключэнне. Тады склікалі камісію і наладзілі дзіцяці езуіцкі іспыт: яны не асобныя ноты правяралі, а прасілі яе адказаць, якія ноты гучаць у акордзе з чатырох нот!

Танечка мая, стоячы спіной да інструмента, беспамылкова вызначыла ноты... Камісія была ўражана. Праверка доўжылася пятнаццаць хвілін — дачка ніводнага разу не памылілася. Старшыня камісіі сказаў: "Таварышы, запомніце гэты дзень! Бог даў дзяўчынцы талент — гэтага нельга аспрэчыць!"

У Жалудок мы прывезлі паперу з пячаткай. Пачытаўшы паперу, Росін сказаў: "Чакайце!"

*Сядае маці з дачкой у аўтобус і прыязджае ў школу пры кансерваторыі. "У мяне адораная дачка, і яна павінна ў вас вучыцца". — "У нас усе адораныя. і мы прымаем іх у травені, а цяпер на двары лістапад. І ўвогуле, у нашу школу паступіць — гэта тое ж самае, што вярблюду ў ігольнае вушка пралезці". Пайшлі мама з дачкой у кансерваторыю да прафесара Гольдфельда. Паслухаў ён, потым — камісія і — пайшоў прафесар на прыём да намесніка міністра культуры. Такім чынам дзяўчынка трапіла ў спецшколу. Мама наняла ёй кватэру ў добрых людзей і пакінула адну ў Мінску, а сама вярнулася ў Жалудок. Як жыць далей?*



*У роспачы маці едзе ў Мінск, да начальніка тылу акругі генерала Кулібіна. ("Я да скону на яго маліцца буду!") З цяжкасцю ("Я не пайду адсюль, пакуль генерал мяне не прыме") трапляе Марыя Міхайлаўна да генерала. Генерал сказаў: "Я ўсё зразумеў. Але я хачу, каб вы ведалі: калі хоць адно слова, што вы распавялі пра вашу дачку, будзе няпраўдай... Я сам усё праверу. Зайдзіце праз тры дні".*

*Калі яна прыйшла ў прызначаны тэрмін, генерал падняўся, пасадзіў яе ў фатэль і сказаў: "Я прашу ў вас прабачэння. Я тады вам не паверыў... Вы будзеце жыць у Мінску. Шчасця і ўдачы вашай дачцэ". (Калі Марыя Міхайлаўна казала пра гэта, — вочы яе поўніліся слязьмі...) І што ж сталася з гэтым талентам? А нічога, у тым сэнсе, што вялікай скрыпачкай Таццяна не зрабілся — выкладае ў Мінскай музычнай вучэльні. Ну, што ж, дзякаваць Богу, што не разлучыў яе са скрыпкай.*

### ЦУД

Калі я памірала ("Урачы сказалі, што выратаваў цуд..."), я вельмі не хацела турбаваць сына, які служыў на Далёкім Усходзе. Я не хацела, каб ён хваляваўся і ехаў здалёк... І ўсё намагалася сказаць: "Не выклікайце Гену..." — і ніяк не магла. І вырашыла: пакуль не вымаўлю гэтага — не памру. А яшчэ лепей наогул не паміраць, тады ён не прыедзе, такія вось думкі былі... І, мяркую, менавіта гэтае жаданне і гэтыя думкі не дазволілі мне памерці.

### МЫ — ЁСЦЬ!

Марыла: пайду на пенсію — вось тады і ў тэатр пайду, і ў самадзейнасці пачну займацца, і вершы свае любімыя пачытаю. Некалькі разоў я наладжвала вечары паэзіі ў клубах ваенных гарадкоў, дзе мы жылі. Чытала Цвятаеву, Ахматаву, Ясеніна, Асадава... Сто гадоў таму сказалі б: быў вар'яцкі поспех! Мне гэта так спадабалася... У першы ж дзень пайду ў цырульню: зраблю завіўку, фрызуру, манікюр, педзікюр, макіяж — і ў тэатр! І вось надышоў гэты дзень... Колькі каштуе прычасацца ў цырульні? 400 тысяч... А квіток у тэатр? 80 тысяч... Куды мне! Вось тады я і знайшла наш клуб аматараў тэатра пры бібліятэцы імя Янкі Купалы — "Таленты і паклоннікі". Сябры яго, у асноўным — пенсіянеры. Нас — чалавек 50.

Галоўнае, што мы збіраемся, робім штосьці карыснае — мы ёсць! І мы хочам, каб ведалі, што мы жывем! Гэта так істотна для чалавека...

### ЧЫМ ДУША СУПАКОІЛАСЯ...

"Мая надзея і апора, мая любоў і маё жыццё — мой залаты ўнук... І мая сярэбраная ўнучка".

**Занатаваў**
**Мікалай МІРОНАЎ**

## У КОСМАС — НА ТРАКТАРЫ?

***Наталля Лісейчыкава — адна з тых нямногіх жанчын у нашай краіне, якія засвоілі мужчынскую прафесію. Замужам. Сыну — 23 гады. Скончыла радыётэхнічны тэхнікум, у сезон працавала трактарысткай у падшэфных калгасах завода "Гарызонт". Мае асабісты аўтамабіль, стаж кіравання ім — 12 гадоў. Нарадзілася ў год Каня, пад знакам Стральца.***



— Пасля васьмі месяцаў вымушанага беспрацоўя я даведалася ў Цэнтры занятасці, што патрэбны майстры вытворчага навучання па падрыхтоўцы вадзіцеляў. Прыйшла ў мінскую АТШ да палкоўніка Віктара Серабракова і кажу: "Я прыйшла да вас па аб'яве, каб уладкавацца на працу. Праца гэтая цалкам прыймальная як для мужчын, так і для жанчын. У канстытуцыі, нібыта, забаронаў няма — у космас ужо лётаем. Можа, паспрабуем?"

**— Інфаркт не здарыўся з начальнікам?**

— Хутчэй ён быў у шоку, потым задумаўся, усміхнуўся: "Давайце паспрабуем, толькі з выпрабавальным тэрмінам". І вось 13 сакавіка споўніцца роўна год, як я там працую.

**— А ці былі да вас у Мінску інструктары-жанчыны?**

— Была адна жанчына, і ў гэтай самай школе. Але гэта было даўно — у 60 — 70-я гады. Цяпер, пасля эксперымента са мной, узялі на працу яшчэ адну жанчыну.

**— Значыць, цяпер вы не адна ў горадзе — жанчына-інструктар? Ёсць з кім падзяліць цяжкасці?**

— Так. Галоўная праблема ў тым, што я — не аўтаслесар. Безумоўна, я магу выправіць невялікую паломку, але сур'ёзнымі павінны займацца спецыялісты. Ды, шчыра кажучы, і часу на гэта нестае. Працуем па 8 — 10 гадзін, нікуды не адысці, не разняволіцца.

**— Напэўна, не ўсім падабаецца жанчына-інструктар?**

— І такое здараецца. Але гэта толькі напачатку. Потым пачынаецца праца, якая ўсё ставіць на свае месцы.

**— Не сакрэт, што кіроўцы п'юць... Як вы ставіцеся да спіртных напояў?**

— За выключэннем святаў я практычна не п'ю. Але здараецца, што на працы псіхалагічна "зламаешся", стомішся, трапіш у стрэсавую сітуацыю. І тады, вярнуўшыся дахаты, я прымаю вану з "зёлкамі" і магу дазволіць сабе 50 — 100 грамаў каньяку, каб "падпаліць" нервовыя канчаткі. Але дазваляю гэта сабе гранічна рэдка. А ўвогуле мне даспадобы "Martini bianco".

**— Мне вядома, што многія не вытрымліваюць псіхалагічных перагрузак і пакідаюць гэтую нервовую працу.**

— Калі б я мела сродкі да існавання, я б, безумоўна, займалася творчай дзейнасцю. Напрыклад, астралогіяй.

**— Чаму менавіта астралогіяй? Вы ж, як я памятаю, і танцавалі, і скончылі музычную школу...**

— Мяне заўсёды цягнула да астралогіі. У маленстве я была закахана ў сузор'е Арыён. І як я даведалася пазней, гэта не выпадкова. Паводле гараскопа я — Стралец, а, згодна з міфам, ён цэліцца ў Скарпіёна, каб адпомсціць яму за здрадніцкі ўкус Арыёна.

Мяне заўсёды цягнула да нябёсаў, зорак, ведаў. Але трапляліся, зазвычай, бульварныя брашуркі, што распавядалі нібыта пра ўсё і — ні пра што. У іх не было Чалавека, а ён жа — часцінка Сусвету. Вось я і скончыла астралагічныя курсы, "захварэла" на астралогію і цяпер збіраю дадатковую інфармацыю для кнігі, што будзе выдадзена пад кіраўніцтвам Паўла Глобы.

**— Ці верыце вы ў тое, чым займаецеся?**

— Натуральна! Уся інфармацыя прыходзіць да нас ад Бога. Мы іншы раз кажам: "прыйшла геніяльная ідэя, думка", і мы лічым, што гэта — наша асабістая заслуга. На самой справе гэтыя думкі і ідэі даюцца нам звыш за нашыя справы, задумы. Альбо за дзеянні нашых продкаў, якія вядуць нас па жыцці.

**— Тэарэтычна ўсё гэта цікава. А як на практыцы?**

— Многія несур'ёзна ставяцца да зорак, космасу, гараскопаў. Але на сваім жыццёвым вопыце я пераканалася, што не зашкодзіць ведаць, што ў цябе наперадзе, каб, калі не пазбегнуць, дык хаця б зменшыць удар. Складаючы гараскоп на пэўны месяц, я бачу, што мне не рэкамендавана, і імкнуся прытрымлівацца прагнозаў: напрыклад, адкласці паездку альбо не. Цікава, што і колеры адзення трэба падбіраць адпаведныя. Праўда, нашыя заробкі не заўсёды дазваляюць гэта зрабіць, але пэўны элемент патрэбнага колеру заўсёды павінен прысутнічаць.

**— І дапамагае?**

— У пераважнай большасці выпадкаў.

**— Што вы любіце і што не?**

— Не люблю, калі на мяне ціснуць. Я — вольны чалавек і магу сама распараджацца сваім жыццём. Ніколі і нікому не дазволю, каб мне загадвалі і прыніжалі мяне як асобу.

А калі казаць пра тое, чаго б хацелася, дык гэта, мабыць, тое, што і ўсім жанчынам — каб побач са мною заўжды быў моцны, мужны чалавек, мужчына і каб нашыя стасункі не абмяжоўваліся банальнай прозай жыцця, а ўсё было б узвышана і прыгожа. І каб гэта ніколі не заканчвалася...

**Гутарыў**
**Уладзімір ЯКІМУК**

## ШЭФ-ПОВАР ЛЮБІЦЬ ВЕРШЫ

***Да Таісы Самусевіч у госці я заявіўся нечакана, каб узяць рэцэпт нейкай святочнай стравы да 8 сакавіка. Бо спадарыня Таіса працуе шэф-поварам у мінскім дзіцячым садку № 41. Стаж яе працы на ніве кухні аж 39 гадоў. У нашым доме яе ведаюць усе як добрую гаспадыню, цудоўную жанчыну і выдатнага повара, таму за парадамі да яе прыходзяць многія.***

**— Спадарыня Таіса, пачну з галоўнага, які рэцэпт вы можаце запрапанаваць мужчынам на 8 сакавіка? Мабыць, многія з нас цяпер ламаюць галаву, што ж прыгатаваць смачнага і экзатычнага каханай жанчыне.**

— Магу запрапанаваць пірог-медавік, бо гатуецца ён досыць проста...

**— Гэта з разлікам на нашу мужчынскую лянoту?**

— Ну, думаецца, вы, мужчыны, у гэтыя дні будзеце заклапочаныя яшчэ і набыццём падарунка і кветак. А тут прыгатаванне стравы... Мне здаецца, гэты пірог ідэальны варыянт для выйсця з сітуацыі. Такім чынам, бярэм 250 грамаў штучнага мёду, 250 грамаў цукру, 3 яйкі, чайную лыжку соды, тры с паловай шклянкі мукі — усё гэта замешваецца да аднароднай масы. Потым гэтую масу кладзем у холад на тры гадзіны. Пасля дзелім цеста на тры часткі. Прычым, для выпякання каржоў духоўка павінна быць гарачай, а бляха халоднай. Дарэчы, бляху трэба змазаць маргарынам. Гэтак выпякаюцца тры каржы. Далей робім крэм: дзве шклянкі смятаны, адна шклянка цукру — гэта ўсё добра ўзбіваецца. Прыгатаваным крэмам абмазваем каржы і складваем іх разам. Гатовы пірог павінен пастаяць ноч, каб прасякнуцца крэмам, — тады ён будзе смачны.

**— Таіса Васілеўна, вы заўсёды працавалі толькі ў дзіцячым садку?**

— Чаму ж, я цэлы год працавала ў рэстарацыі аэрапорта. Але там нашмат складаней, трэба кожны раз выдумляць нешта замежнае, экстравагантнае. Праўда, і заробкі ў рэстарацыях значна вышэйшыя. Так, у садку я атрымліваю адзін мільён трыста тысяч рублёў, а ў рэстарацыі плоцяць не менш чатырох мільёнаў. Але ў садку я працую яшчэ і таму, што вельмі люблю дзяцей. Гатаваць для іх для мяне адно задавальненне.

**— Наколькі я ведаю, лічыцца, што працаваць у рэстарацыі прэстыжна.**

— Я заўсёды магу перайсці ў рэстарацыю, бо ў мяне пяты разрад шэф-повара. Канечне, акрамя афіцыйных заробкаў, там, верагодна, можна зарабляць і неафіцыйна.

**— Ці ёсць у Мінску знакамітыя повары?**

— Канечне. Але, на жаль, я цяпер не ўзгадаю ніводнага прозвішча.

**— А які б вы хацелі падарунак на 8 сакавіка атрымаць ад любімага чалавека?**

— Я люблю касметыку. Хаця, на мой погляд, лепшы падарунак гэта штодзённая мужчынская ўвага.

**Занатаваў**
**Зміцер ВОЛКАЎ**

**P.S.** У маленькай кватэры спадарыні Таісы на сцяне я ўбачыў партрэт паэта Сяргея Ясеніна. Як прызналася гаспадыня, любіць яна прыгожыя вершы.

***Здаецца, не праходзіць і дня, каб СМІ не паведамлялі пра ўсё новыя факты вывазу айчынных прадстаўніц "слабага полу" за межы Беларусі. Раскрыта не адна групоўка злачынцаў, якія прадавалі маладых беларускіх дзяўчын у рабства да сутэнёраў розных краін свету. Праблема пастаўкі путан набыла ўжо характар своеасаблівага міжнароднага канвеера-монстра, які перамолвае ўшчэнт не толькі прыгожыя целы, але і чалавечыя душы.***

***Для нас гэтая праблема перастала быць абстрактнай, бо ў рэдакцыйным партфелі з'явіўся эксклюзіўны матэрыял пра лёс канкрэтны. Гэты лёс — не проста "смажаныя" факты на амаль што закрытую для грамадства тэму, а згустак жорстка-балючых сацыяльных праблем, да якіх абыякава паставіцца немагчыма.***

***Мы не сумняваемся, што публікацыя выкліча неадназначную рэакцыю чытачоў.***

***Цалкам матэрыял будзе змешчаны ў бліжэйшых нумарах часопіса "Нёман".***

***Рэдакцыя***




***Вы прачытаеце тое, што яна сама мне распавяла, і так, як яна гэта распавяла. Згодна з яе просьбай я змяніў толькі імёны і геаграфію: "Калі мяне пазнаюць — заб'юць", — усміхнулася яна. "Чаму ты мне ўсё гэта распавяла?" — "Яшчэ ў школе, напэўна, у сёмым класе, я прачытала вашую кнігу і запомніла прозвішча..." Напрыканцы нашай дзесяцігадзіннай гутаркі яна папыталася: "Хочаце пачытаць мой дзённік? Я вяду яго яшчэ са школы".***

***Яе аповед будзе чаргавацца з вытрымкамі з яе ж дзённіка. Іншы раз там, дзе, на маю думку, без гэтага не абысціся, буду прысутнічаць і я.***

***Такім чынам, яе звалі Наташай. У момант нашай сустрэчы ёй было дзевятнаццаць гадоў. Пяць апошніх месяцаў — працавала прастытуткай у "пуфе" (нелегальны публічны дом). Нарадзілася ў беларускай вёсцы на Брэстчыне. Бацька шафёр, маці — у дзіцячым садку прыбіральшчыцай. Трое дзяцей, Наташа — малодшая. І ўсё было як ва ўсіх, як у тысячах сем'яў...***

... І мама, і браты казалі, што бацька быў некалі добры. Я такім яго ўжо не пабачыла. Калі вярталася са школы — першае, пра што пыталася, ці дома ён. Калі дома — размаўлялі шэптам. Піў ён страшэнна. І біў. І маці, і нас — ні за што, проста так. Я таму іншы раз і ў школу не хадзіла. Твару свайго саромелася. Я вельмі любіла маму і не магла зразумець, чаму яна, такая прыгожая, жыве з ім. Браты падраслі, іх бацька ўжо не біў — баяўся. А нас з мамаю... Маці, мабыць, каб троху сцішыць ягонае п'янства, пачала выпіваць разам з ім. А потым ён пайшоў да другой жанчыны. Маці яго, пэўна, кахала. Я ведаю, яна чакала, калі ён вернецца. Бабуля мне распавядала, што ён нібыта і хацеў вярнуцца да нас. Але абодва — маці і бацька — былі ганарлівыя, і ніхто з іх не зрабіў крок насустрач. А мама пачала піць "па-сапраўднаму". Дзе б яна ні працавала — адусюль выганялі: каму патрэбная алкагалічка? Аднойчы ледзь цялятнік не спаліла... Выносіла з хаты ўсё. Жылі на бабуліну пенсію.. Ох, як жылі... Хлеб "лічылі"...

Усё развалілася. А ў мяне была адна толькі мара — вырвацца з роднай хаты. Так хацелася смачна есці, апранацца прыгожа. Сустрэну дзяўчынку ў "фірме" — потым дома плачу. На вуліцы мароз — 30 градусаў, а я ў дэмісезонных ботах, абутых на пяцёра шкарпэтак. Але ўсё роўна — на дыскатэку! А там перамагала маё "багацце" — знешнасць і постаць. І ўсё б, напэўна, склалася ў маім жыцці інакш, калі б не мой першы хлопец, каханы і нягоднік.

Ён быў старэйшы за мяне на чатыры гады... Быў са мной, а чакаў іншую. А я, дурніца, закахалася ў яго — на сябе забылася. Больш так нікога... Я скончыла восьмы клас, калі ён у войска пайшоў. Праводзілі кампаніяй, а потым я засталася. Ён такія словы казаў, так мілаваў, што ўсё атрымалася само па сабе. Ён ужо вопытны быў, і гэта было так цудоўна, што лепшага ў мяне пакуль не было... Я зрабілася жанчынай з тым, каго кахаю! Я звар'яцела: трое сутак ад яго не выходзіла. Вось і ўсё маё каханне.

*Дзённік (Беларусь):* "Пайшла да варажбіткі. Тая сказала, што на наш род наслана закляцце. Адгадала маіх мужчын: "Адзін сівы пры табе, а другі, малады — цяпер далёка, тваё сэрца з ім". Будзе ў мяне два сыны і дачка. Хацела б я ведаць, ад каго? Сказала, што аднаго сына я заб'ю. І напрыканцы дадала, што хутка памрэ мая мама... Дурніца яна, гэтая варажбітка!"

*Дзённік (Беларусь):* "У мамы ёсць знаёмы. Яны іншы раз разам п'юць. Ён да нас прыходзіў разы са тры. Шэры, стары, гадоў шасцідзесяці. Мама мне кажа: "Ён на цябе вока паклаў. Калі ты з ім будзеш спаць адін раз на тыдзень, дык ён адпіша табе кватэру, у яго аднапакаёвая..." Гэта кажа мне не мачаха, а родная маці. Хіба можна ў гэта паверыць? Калі я пабачыла гэтага "кавалера" ў наступны раз — ледзь не званітавала, як уявіла..."

*Дзённік (Беларусь):* "Ляжала і думала, як памерці, каб не пакутаваць. Маці — горш за ворага. А што мне патрэбна? Маці і грошы. Хіба гэта шмат?"

*Дзённік (Беларусь):* "Хлопцы карыстаюцца намі, а потым кідаюць... Трэба сказаць яму ўсё тонам рэвалюцыянера-бунтара, і ўсё вырашыць адразу".

*Дзённік (Беларусь):* "Я іграю ролю цяжарнай жанчыны. "А-а, ты кінуў цяжарную жанчыну, маці твайго дзіцяці?!" Але — варта пабыць з ім гадзіну — і на ўсё забываюся. Займацца з ім каханнем — гэта самае цудоўнае на свеце. Але, як у казцы, гадзіннікі прабілі дванаццаць і — трэба развітвацца..."

*Дзённік (Беларусь):* "Нашыя сустрэчы нічога не дадуць", — сказаў Саша. А я і сама гэта бачу. Але надзея — гэта апошняе, што ў мяне ёсць. Добра, што спадзявацца можна без грошай, а то ў мяне б і гэтага не было. Не магу я ўявіць сваё жыццё без яго. Кажу: "Значыць, дзіця застанецца без бацькі. Ён пачаў цалаваць мяне, абняў, і мы пайшлі на стадыён. Проста на лаўцы ўдзень. Так соладка яшчэ не было. Гэта — шчасце. Я памру, калі страчу Сашу. Хаця там жа, на стадыёне, і пасварыліся: ён прапанаваў зрабіць аборт. А я рашуча адмовілася. Калі б ён ведаў, што я яго падманваю... Але ж я раблю гэта, каб яго ўтрымаць. І не толькі для сябе — яму ні з кім не будзе так добра, як са мной. І ўсё гэта — словы: я проста яго кахаю".

*Дзённік (Беларусь):* "Пішу Сашы вершы. Ужо цэлы сшытак. А Люська кажа, што Сашына мама паведаміла яе маме, што Саша прывозіў з Мінска дзяўчынку-студэнтку і пазнаёміў з бацькамі. Нібыта яна будзе чакаць яго. Вось і прыехалі! А я думаю... "Я цябе на руках буду насіць", — гэта ён мне некалі казаў... Нягоднік! Добра. Калі так, дык ты мне заплоціш!"

*Дзённік (Беларусь):* "Ці кахаў хто-небудзь так, як я? Я не ўяўляла, што чалавек можа так пакутаваць. Хай бы лепей вырвалі ўсе зубы. "Чалавек нараджаецца для шчасця". Для чаго? Я не чую. Калі б за ману каралі — усе настаўнікі і ўсе мужчыны даўно б здохлі".

*Дзённік (Беларусь):* "Нешта я ўсур'ёз пачала піць... Саша хутка ідзе ў армію. Прыйшоў: "Я дам грошы на аборт!" "Добра, каб табе спакойна служылася, без нерваў — я згодная на забойства". А сама думаю: "Што б мне купіць на гэтыя грошы?". Ажно 50 долараў. Кажу: "Давай пачнем развітвацца, цяпер можа без "гумкі". А сама шарык ужо падрыхтавала... "Ці не занадта рана пачынаем? Яшчэ паўмесяца да арміі". А я адказваю: "Мне з табой і цэлага жыцця было б мала". Ён смяецца. Такі прыгожы..."

*Дзённік (Беларусь):* "На наступны дзень Саша прыйшоў, каб яшчэ раз паспець "не азіраючыся", і кажа: "Не трэба за аборт грошы плаціць, я дамовіўся са знаёмым урачом за бутэльку каньяку". Я Людцы расказала, яна доўга смяялася, а потым папыталася, што я цяпер буду рабіць. Шкада, безумоўна, грошай, але я добра сыграла сваю ролю, сказаўшы Сашу, што ўсе гэтыя дні хачу мець яго "натуральнага" і зраблю аборт, калі ён пойдзе ў войска. Такое вось кіно".

*Дзённік (Беларусь):* "Сусед Аляксей даў мне зразумець, што можна зарабіць добрыя грошы. "Толькі трэба на некалькі месяцаў паехаць з хаты. Падумай і адкажы". "Якая праца?" — спытала я. "Жаночая. Вы гэтую працу любіце".

Саша пайшоў у армію, а мае дзіравыя боты засталіся са мной. Колькі разоў прыставалі хлопцы, прапаноўвалі грошы, рэстаран, гатэль... Я тады ўжо ў вучэльні на швачку вучылася. У нас палова дзяўчынак за "шмоткі" альбо выпіўку пад каго заўгодна клаліся. А я вернасць захоўвала... Аднойчы на дыскатэцы запрасіў мяне нейкі амбал. Казалі, што ён — рэкецір. Патанцавалі. Ён ледзь не зламаў мяне падчас танца... Я адчула, што ён проста так не адчэпіцца...

Праз некалькі дзён мы з сяброўкай вярталіся ў інтэрнат, ужо цёмна было, а ён чакае ля ганка... Сяброўку прагнаў. А мне кажа: "Паехалі". — "Нікуды не паеду. У мяне хлопец ёсць. Ён ажэніцца са мной". — "Хай сабе, я не супраць. Але на дыскатэку са мной схадзіць ты можаш? Давай дамовімся: ты са мной танцуеш, а я вяду цябе ў кабак. Добра?"

Ну, думаю, добра, што хаця не збіў. У яго быў матацыкл, і мы паехалі. Якая гэта будзе дыскатэка, я зразумела, калі ён спыніўся ў цёмным скверыку і, прыставіўшы нож да маёй шыі, пацягнуў у хмызняк. Там ён сказаў: "Здымай трусы". Я адказала: "Табе трэба — ты і здымай". Вось і ўсё маё супраціўленне. А ён і зняў: разрэзаў нажом. А я толькі і паспела падумаць: адзіныя прыстойныя трусы.... Гвалтаваў так, нібыта хацеў забіць. І балюча, і страшна. Я ўжо не тая Наташачка, якою была. Горш за гэта ўжо нічога не будзе. З гэтай гадзіны ў хмызах пачаўся мой шлях у прастытуцыю. Але гэта я асэнсавала, толькі сапраўды зрабіўшыся прастытуткай. Гэта быў момант, што зрабіў мой выбар лягчэйшым, калі мне прапанавалі гэткую "працу".

Каб скончыць гісторыю з амбалам, распавяду, як я яму адпомсціла. Неўзабаве (у мяне ўжо да таго часу было некалькі мужчын), абрабавалі нашага суседа. Я была тады дома, бо былі канікулы. Выклікаюць у міліцыю як сведку. Следчы пытаецца, што я бачыла. Адказваю, што нічога, а тут раптам уваходзіць маёр. Убачыў мяне і кажа: "Гэтую справу бяру сабе". А я вочы яго бачу: гэта ён не справу, а мяне сабе бярэ. На наступны дзень паехалі мы з ім у лес. Ну, выпілі-закусілі, пачаў ён мяне ўкладваць, а я кажу: "Таварыш маёр, я гатовая легчы пад вас разоў пяць-шэсць, але я хачу, каб на зямлі хаця б аднойчы была справядлівасць, а не толькі, каб маёры спакушалі непаўналетніх. Вы ж маглі мяне згвалтаваць, але вы папрасілі. А вось ён..."

І я распавяла яму пра амбала. "Калі вы з ім за мяне разлічыцеся, дык гэтыя пяць-шэсць разоў будуць вашыя". Амбал "сеў" на чатыры гады, а я разлічвалася, калі маёр хацеў. Ён аказаўся добрым мужчынам, але грошай ніколі мне не даваў.

А маці п'е, і ні я, ні браты не можам яе ўтрымаць. Аднойчы, бачачы мае дзіравыя калготы, маці кажа: "Я пазнаёмлю цябе з мужчынам. Ён фірмач, багаты. Любіць маладзенькіх. Яшчэ не стары, пяцьдзесят гадоў". А мне тады шаснаццаць было... "Будзеш з ім сустракацца і не трэба будзе цыраваць калготы, што рвуцца штодня".

Пазнаёміла. Так, усё праўда, ён яшчэ нават і сімпатычны. Наняў кватэру. Раз ці два на тыдзень мы былі з ім там некалькі гадзін. Ён плаціў маме грошы, а мяне апрануў. Лядоўня заўсёды была поўная. Ад'елася... Але ў мяне з'явіўся абавязак перад мужчынам: быць там, дзе ён скажа, ехаць з ім, куды ён загадае... Рабіла ўсё, што ён хацеў. Пайшла нейк на дыскатэку — ён мне вымову зрабіў: "Каб больш гэтага не было! Ты там "падхопіш", а я лячыцца буду." Было зразумела, што свабоду я страціла. А ён робіць мне такую прапанову: "Я купляю табе гэтую кватэру і бяру на ўтрыманне, а ты — усё, што я скажу".

Калі б я яго хоць трошачкі кахала... Не пагадзілася я прадаць сваю волю, бо не здолела адмовіцца ад Сашы: ён павінен быў неўзабаве вярнуцца. У мяне яшчэ была надзея, што мой каханы ыратуе мяне, і ажэніцца са мной, і я нараджу яму сына.

*Дзённік (Беларусь):* "Вось і скончылася маё жыццё. Напілася да вар'яцтва. Прыехала Ірына. Уратавала мяне, бо я ўжо хацела атруціцца. Усе ведалі, што яна прыехала на колькі дзён да бацькоў, а працуе ў атэлье ў Мінску. Яе бацькі далі хабар, а ў мяне грошай на хабар не было... А мне яна распавяла, што яе ўжо паўгода таму прадавалі ў публічны дом у Літву. Прапанавала і мне. Удваіх весялей. Мы з ёй вельмі сябравалі ў вучэльні. "Не цукар, але грошы будуць". Калі б я тады ведала, што за "не цукар"... Пагадзілася. Яна сказала: "Чакай. За табой прыедуць".

*Дзённік (Літва):* "Прыехалі два хлопцы гадоў па трыццаць. Не падманула Ірка! Пакінула маме запіску: еду ўладкоўвацца на працу. Напішу. І — наперад. Заначавалі ў гатэлі ў Чавусах. Паелі, выпілі і яны кажуць: "Ты калі-небудзь спала з двума? Давай паспрабуем. Адначасова будзе табе іспыт, даведаемся, што ты можаш". Ну, давайце, кажу, спрабуйце. Я і сапраўды з двума ніколі не спрабавала. А атрымалася някепска: і мне добра, і яны задаволеныя. Здала іспыт".

Мяжу перайшлі нелегальна. Зноў начавалі ў гатэлі. Цяпер я ўжо не захацела з двума. А адзін — гэта тое, што трэба, каб заснуць. Раблюся сапраўднай падлай. Ну і добра — я так хачу! Усё, назад шляху няма. Я — прастытутка. Прывезлі на "хату", сустрэліся з Іркай. Жыць будзем разам. Яна п'е нейкую вадкасць, каб атрымаўся выкідыш: "залецела" мая Ірка. Я папрасіла яе даць мне гэтага паліць. Навошта? Каб не зацяжарыць. Яна так смяялася.

*Дзённік (Літва):* "Першы выклік. Добры хлопец. Пяшчотны. Сашу ўзгадала. Зарабіла 10 долараў. Калі адпачывалі ўдзень, Ірка мне расказала, як яна "залецела". Яе перапрадавалі ўжо некалькі разоў. І ў апошні раз у такую фірму, дзе трэба працаваць без гумкі і адразу з некалькімі. Яна і не ведае, ад каго зацяжарыла, і трыпер там падхапіла. Ледзь вырвалася з той кватэры: і грошы заплаціла, і рэчы пакінула, але ўцякла... А тут, дзе мы цяпер, нібыта лепей... Не паспелі паразмаўляць — заходзіць наш альфонс з сябрам. І — пачалося... Мы былі ледзь жывыя, а тут яшчэ ўсю ноч працаваць. "Нічога, б..., выпейце і будзеце, як жывыя". Пакінулі поўбутэлькі гарэлкі і пайшлі".

*Дзённік (Літва):* "Два тыдні. І ўдзень, і ўначы гэтыя сволачы не даюць спакою. І збіваюць яшчэ. Я не захацела з гаспадаром без гумкі. Дык спачатку збіў, а потым... Гляджу на сябе ў люстэрка і пытаюся ў Іркі: "Ну што, хіба тут лепей, чым у той канторы?" Вырашылі ўцякчы — вытрываць гэта немагчыма. Апошняя працоўная ноч. Прыйшлі два браты-блізняты. Я паклікала Ірку, палеглі ўчатырох і ўвесь час мяняліся. Яны закупілі ўсю ноч. Мы з імі дамовіліся, што яны нібыта на кватэру нас возьмуць на адзін дзень, а мы ім за гэта цяпер — усё, што яны пажадаюць. Адпрацавалі сумленна. А ў іх грошай — пачакі долараў".

**Навум ЦЫПІС,
наш уласны
карэспандэнт**
*Брэмен—Мінск*

*(Працяг будзе.)*

ЛІШНЕ КАЗАЦЬ!

# "КУЛЬТУРА" НА ХВАЛІ "БЭБІ-БУМА"!

*"Забота у нас простая*
*Забота наша такая..."*
***Песня***

Калі верыць замежнай прэсе (а ў нас няма іншых падстаў), то мінулы год быў асаблівым для сусветных зорак. Напрыклад, на неверагодную вышыню паднялася справа нараджальнасці ў Галівудзе і ў наваколлі. Толькі размова пра Галівуд пазней, бо маем гонар паведаміць вам, чытачы, пра "наваколле" — рэдакцыя газеты "Культура" мае свайго першынца — хлапчука Яна! За шэсць з нечым гадоў свайго існавання супрацоўнікі "К" намагаліся не адстаць ад еўрапейскай моды ва ўсім: у колеры джынсаў і вышыні абцасаў, у выбары тытуню і гатунку кавы... Нават на знакаміты карнавал у Венецыю "засылалі казачка", каб набыць эксклюзіўны матэрыял. А пра Літву, Латвію і Расію нават лішне казаць... Камукаму, а вам, чытачы, добра вядома, чаго каштуюць нашыя рэпартажы і матэрыялы — усё праверана на сабе і ўбачана на свае вочы!

І зноў "культураўцы" аказаліся, як кажуць, на хвалі сусветнай з'явы "Бэбі-бум". Нашая Ганна Аладава, рэдактарка аддзела сучаснага музычнага мастацтва (вядомая ўсім па "джазавых" матэрыялах), нарадзіла ў студзені Янку, чым і падтрымала такую карысную справу — быць на "хвалі" моды. Можна


Ала Пугачова


Мікалай Фаменка

сказаць дакладна: дзеля гэтага былі кінуты лепшыя сілы рэдакцыі — ад карэспандэнтаў да шэф-рэдактара, толькі не ўсім пашэнціла так, як нашай меламанцы Анюце... Віншуем і — дзякуй ёй!

Пачатак гэтага вар'яцтва, "бэбі-бума", паклала сямейства агента 007 — Пірса Броснана. Во дзіва! Джэймс Бонд заўсёды і ўсюды павінен быць першым. У гэтым жа самым студзені ў Пірса нарадзіўся чацвёрты сын. Калі вы памятаеце яшчэ аднаго бравага хлопца Галівуда — Арнольда Шварцэнегера, дык паведамляем вам, што пасля аперацыі ў "Містэра Вялікі мускул" таксама нарадзіўся чацвёрты сын... А чаго каштуе скандал са з'яўленнем на свет сына Джэксана — Майкла-малодшага? Памятаеце, як скептыкі адзначалі, маўляў, у рок-зоркі няма мужчынскай моцы, каб пазнаць радасць бацькоўства. Але зараз ходзяць чуткі (з амерыканскіх СМІ), што Майкл Джэксан зноў стане бацькам...

Толькі не падумайце, што мужчынскі бок дэмаграфічнага працэсу мяне турбуе больш за жаночы. Проста хочацца лішні раз падкрэсліць: нашая Анюта ў гэтым шэрагу "зорак" нас не падвяла... з дачкой.

Як, напрыклад, атрымалася ў вядучага праграмы "От винта" на НТВ Антона Зайцава — камп'ютэр "абяцаў" сына, а жонка нарадзіла дачку... А вось у Марыі Шукшыной (дачкі славутага Васіля Шукшына) нарадзіўся сын, і яго назвалі Макарам...


Ганна Аладава з Янкам.
*Фота Віктара Зайкоўскага*


Крысціна Арбакайтэ


Пірс Броснан


Арнольд Шварцэнегер


Лідзія Федасеева-Шукшына

Роўна на месяц раней за Анюту расійская тэлезорка Юлія Мяньшова, пра якую пляткарыў увесь СНД, да самага апошняга часу не пакідала працоўнага месца і — нарадзіла сына. Прычым, у звычайным раддоме, хаця ёй і прапаноўвалі навамодныя "прыбамбахі" тыпу родаў у вадзе, яна ж вырашыла рабіць усё бабулькіным метадам.

А чаго вартая такая плённая глеба ў гэтай справе, як эстрада? Пра цяжарнасць Крысціны Арбакайтэ не пісалі толькі лянотныя. Шчыра кажучы, калі глянеш на дачку знакамітай расійскай спявачкі, дык і не заўважыш з ходу васьмімесячную цяжарнасць Крысціны.

Дарэчы, бабулек сярод эстраднікаў стала болей — у Клары Новікавай нарадзіўся ўнук. Не хвалюйцеся, чытачы, рэдакцыя "К" мае траіх унукаў: Алесю, Франэка і Паўла! Дарэчы, і на шмат раней за Алу Барысаўну і Лідзію Федасееву-Шукшыну...

А вось пра тое, што Фаменка стане бацькам, мала хто ведаў. Пара Мікалай Фаменка — Маша Галубкіна трымалі свае "справы" ў сакрэце. Хаця, калі бачыш вядучага праграмы "Імперыя жарсці", дык толькі пра гэтыя "справы" і думаеш...

І нарэшце, пра самага імянітага немаўля "ўсяе" СНД. Ім стаў пяты ўнук Барыса Мікалаевіча Ельцына — Іван. Перабіраючы палітыкаў суседняй краіны, узгадаю, што дзіцячымі клопатамі ўзнагародзілі сябе яшчэ і Барыс Беразоўскі, і Ірына Хакамада. Толькі прадстаўнікі мас-медыя не так шыкоўна падалі справы сямейныя вышэй названых палітыкаў.

Цікава, а чаму гэта на Беларусі няма традыцыі паведамляць электарату пра абсалютна натуральныя справы бацькоўства і мацярынства айчынных палітыкаў? Бо яшчэ пройдзе час — і абранцам ніхто і нічога не давярыць... Але я гэта кажу толькі з нагоды "бэбібума" і ані ў якім разе не зазіраю ў спальню праз адтуліну. А што, "слабо" падтрымаць хвалю "бэбібум"? А можа, у нас па завядзенцы: усё лепшае адбываецца са спазненнем на дзесяць гадоў?

Увогуле, чым жа выкліканы бум нараджэння? Толькі хто нам праўду скажа... Магчыма, на небе з зоркамі нешта. Або творцы змарыліся — усё мастацтва ды мастацтва, а куды грошы траціць? Вось яны і дурацца.

**Толькі нашая Анюта Аладава на поўным сур'ёзе пайшла да праблем мацярынства і праігнаравала адсутнасць грошай. Не ў іх жа шчасце! Праўда?**

**Марфа БЛАГАДАНСКАЯ**

КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ,**
**Арсен ВАНІЦКІ,**
**Андрэй ВАШКЕВІЧ** (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар),
**Валерый ГЕДРОЙЦ,**
**Уладзімір ГЛЕП, Ядвіга ГРЫГАРОВІЧ,**
**Аляксей ДУДАРАЎ,**
**Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ,**
**Вольга ІПАТАВА** (рэдактар аддзела),
**Ігар КЛОКАЎ** (рэдактар аддзела),
**Міхаіл ПТАШУК, Алесь РАЗАНАЎ,**
**Віктар СКОРАБАГАТАЎ,**
**Юрый ЦВЯТКОЎ, Леанід ШЧАМЯЛЁЎ.**

Рэдакцыя:
Рэдактары аддзелаў —
**Міхась БАШУРА,**
**Жанна ВАСАНСКАЯ,**
**Барыс КРЭПАК,**
**Уладзімір ЯКІМУК**
Спецкарэспандэнты:
**Зміцер ВІШНЁЎ,**
**Сяргей МІНСКЕВІЧ**
Загадчык аддзела фотаілюстрацый — **Генадзь ЖЫНКОЎ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 4214.

Падпісана ў свет 5.03.97. у 16.00.

Замова 1245.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**